PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 12 (1923) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 21 САКАВІКА 1993 г. ЦАНА 2500 зл.

## 25 САКАВІКА — НАЦЫЯНАЛЬНАЕ СВЯТА БЕЛАРУСАЎ

Сёлета мінае 75 гадоў з дня, калі беларускі народ, вуснамі сваіх прадстаўнікоў у Радзе Беларускай народнай рэспублікі выказаў палітычную волю да незалежнага дзяржаўнага жыцця. 25 сакавіка 1918 года ў Менску Рада Беларускай народнай рэспублікі прыняла III Устаўную грамату, у якой сцвярджалася:

*Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай. Самі народы Беларусі, у васобе свайго установчага сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі.*

III Устаўную грамату БНР, называную таксама Актам 25 сакавіка, паводле сённяшняй палітычнай тэрміналогіі можна назваць дэкларацыяй незалежнасці. Правесці яе ў жыццё Рада БНР не была ў змозе. Згаданы ў III Устаўной грамаце устаноўчы сойм не быў скліканы. Ішла бальшавіцка-нямецкая вайна, потым была абвешчаная беларуская савецкая рэспубліка, потым бальшавіцка-польская вайна, якая закончылася Рыжскім трактатам і падзелам Беларусі. Рада БНР апынулася на эміграцыі.

Рада БНР і Акт 25 сакавіка мелі кароткую, але вірлівую перадгісторыю. У кастрычніку 1917 года афармляецца Вялікая беларуская рада - яна гуртуе прадстаўнікоў ад беларускіх партый, арганізацый і ад вайскоўцаў. Вялікая беларуская рада склікае на дзень 18 снежня 1917 г. Першы Усебеларускі кангрэс, у працы якога бяруць удзел 1872 дэлегаты - практычна з цэлай беларускай этнаграфічнай тэрыторыі. На Кангрэсе ішло зацятае змаганне прыхільнікаў нацыянальнага кірунку (незалежніцкага) з рэгіяналістамі (прыхільнікамі кволай аўтаноміі Беларусі ў рамках непадзельнай Расеі). Калі 30 снежня Кангрэс перайшоў да фармулявання пастаноў, абвяшчаючы рэспубліканска-дэмакратычную форму ўлады ў Беларусі, сфедэраванай на прынцыпах роўнасці з дэмакратычнай Расеяй, бальшавікі пры дапамозе салдатаў з бальшавіцкага менскага гарнізона давялі да разгону Кангрэса. 31 снежня яго ўдзельнікі сабраліся ў менскім чыгуначным дэпо і пад аховай чыгуначнікаў выбучылі Выканаўчы камітэт Рады Усебеларускага кангрэса, які павёў далейшую працу ў кірунку ажыццяўлення волі Кангрэса.

21 лютага 1918 г. Выканаўчы камітэт выдае I Устаўную грамату, сілай якой створана **Народны сакратарыят** - беларускі ўрад, на чале якога стае Язэп Варонка.

9 сакавіка 1918 г. Выканаўчы камітэт выдае II Устаўную грамату, у якой абрысоўваюцца **асновы дэмакратычнага канстытуцыйнага ладу Беларускае народнае рэспублікі.**




19 сакавіка Выканаўчы камітэт Рады I Усебеларускага кангрэса пераўтвараецца ў **Раду Беларускай народнай рэспублікі.**

25 сакавіка Рада БНР прымае згаданую на пачатку III Устаўную грамату, якая ставіць кропку над "і" - абвяшчае **незалежнасць Беларускай народнай рэспублікі.**

Падкрэсліць трэба адзін вельмі істотны факт: Рада БНР і Акт 25 сакавіка - гэта праявы дэмакратычнае волі беларускага народа. Асобы, якія прымалі дэкларацыю аб незалежнасці Беларусі, мелі палітычную правамоцнасць (легітымнасць) на тое ад народа. У гэтым - вялікае маральнае значэнне 25 Сакавіка для беларусаў.

Дзень 25 Сакавіка стаўся нацыянальным святам для тых беларусаў, якія не пагадзіліся на пасяганне бальшавікоў да кіравання Беларуссю. БССР бачылася беларускім незалежнікам як утварэнне недэмакратычнае, як у сваіх палітычных пачатках, гэтак і ў сваёй паслейшай дзяржаўнай сутнасці. Зразумела, памяць аб 25 Сакавіка і яе ўшанаванне жыло адно сярод беларускай эміграцыі. Ажно да апошняга часу. У 1987 годзе ўгодкі назалежнасці БНР адсвяткавалі (потайкам, на прыватнай кватэры) беларускія студэнты ў Беластоку. Потым святкаванне 25 Сакавіка стала ў нас на Беласточчыне справай яўнай. У канцы 80-х гадоў і на Беларусі нефармальныя згуртаванні пачалі святкаваць 25 Сакавіка. Дзень гэты прывярнуўся да нацыянальнае памяці як дата вялікага і годнага нацыянальнага ўзвышэння беларусаў.

Выпадае шкадаваць, што Рэспубліка Беларусь узяла за дзень нацыянальнага свята 27 ліпеня (27 ліпеня 1990 г. была прынятая дэкларацыя аб суверэнітэце БССР; дэкларацыя ў жніўні 1991 г. была ўведзеная ў ранг канстытуцыйнага закону Рэспублікі Беларусь). Як у выпадку з нацыянальным святам БССР, гэтак і тут ствараецца ўражанне "нулявога ўзроўню" ў гісторыі беларускай незалежнасці: тады ўсё пачалося ад Леніна і бальшавікоў, а цяпер - ад Вярхоўнага Савета БССР (што зноў недалёка ад таго першага).

У даце гэтай (27 ліпеня) ніякім чынам не адлюстраванае дэмакратычнае памкненне беларускага народа, адной з кульмінацый якога было абвяшчэнне незалежнасці Беларускай народнай рэспублікі 75 гадоў таму. Магчыма, што ў тым і тоіцца сутнасць справы: пакуль можна, запыняць гістарычнае мысленне беларусаў у часавай працягласці, усё зводзячы да "дабрадзейства" камуністычнае эпохі.

У гэтым годзе нацыянальна свядомая беларуская інтэлігенцыя Рэспублікі Беларусь прыняла зварот да грамадства адзначыць дзень 25 сакавіка як беларускае нацыянальнае свята. У мяне асабіста няма сумненняў, што ў будучыні якраз гэтая дата стане Беларускім Днём, паўсюды: як у Рэспубліцы, гэтак і ў эміграцыі (якая яго ніколі не адракалася), і ў нас на Беласточчыне, дзе ўжо ёсць сціплая традыцыя святкавання. Бо 25 Сакавіка лучыць усіх беларусаў, дзе б яны ні жылі. Для нацыянальнага свята - гэта надзвычайная прыкмета.

І таму:

**Хай славіцца дзень Беларускай Незалежнасці - 25 Сакавіка!**

**Хай жыве Беларусь!**

**ЯН МАКСІМЮК**

## КАЛІ НЕНАРМАЛЬНАСЦЬ СТАНОВІЦЦА НОРМАЙ

Аднойчы я рашыла прыхарашыць сваю сціплую кватэру. Надумала сцены ў вітальні, пакрытыя яшчэ са студэнцкіх маіх часоў эксцэнтрычнымі плакатамі (з мусу) і подпісамі маіх, часам ужо сёння славутых, знаёмых, заклеіць фоташпалерай „савецкі восеньскі лес". Прыгожа гэта мела быць, ці не — справа не ў тым. Мая знаёмая з Беларусі аж за сэрца схапілася:

— Слушай, это ведь не положено класть фотообои в передней! **Нельзя!**

Бачыце, тут ужо справа нават не ў эстэтыцы, а проста, у... этыцы! Каб не рэзаць густ людзей, трэба весці сябе „як паложана", бо што людзі як не скажуць, то хоць падумаюць! Справа і малая, і смешная, давай я тлумачыць дзяўчыне, і не павінна даводзіць нікога да гневу і крыўдавання, а тым больш да абразы маральнасці.

— Ах, не обижайся, — сказала дзеўка. — Вам, артистам, можно всё...

Значыць, пэўным асобам можна весці сябе нетыпова, нават зусім нязгодна з пэўнай прынятай нормай. Дазволена пэўная эксцэнтрычнасць у выглядзе і паводзінах. Абраннікі Муз і іншых духаў, рознай велічыні і вялікасці бачацца „простым людам" ці то як снабісцічны ўзор для дасягнення, ці то як няшкодныя шаленцы, аздоба шэрага жыцця. У пэўным сэнсе іх жыццё ёсць пастаянным **тэатрам** для тлуму...

Людзі з **экрана**, незалежна ад таго, ці мастакі слова, фільмовай стужкі, ці... палітыкі!!! Уключаеш, шэры чалавеча, тэлевізар, а перад тваімі вачыма — кабарэ! Кабарэ слоў і мін, бессаромнасць і нахабная адкрытасць. Сябры, нашыя вузкія, цесныя калідоры ў фоташпалерах-вобразах людзей апантаных, абраннікаў муз ці мас. Замаскаваны ўжо нашыя аблезлыя сцены, не памятаем, што пад сподам. Усё нармальна...

Калі ненармальнасць становіцца нормай, няма ўжо ратунку для чалавека, які хоча жыць нармальна, звычайна. Мець грош на хлеб і лякарства, на газету з навінамі пра звычайныя справы, у якія можна верыць, а не пра тое, што будзе лепш але не горш ці наадварот; мець надзею! Штучнасць заляпіла ўсё, хамскі клей вылазіць з-пад шпалер наросхліст, задрукаваных марнымі словамі і надзеямі. Не, пра надзеі ўжо нават не хочацца і слухаць. І на вуліцу ніхто не пойдзе. Застаемся ў пярэднім. Няхай кожны аздобіць сабе гэты кавалачак жыцця —, калі яго ўжо пачаў ці пачалі за яго іншыя —, які ўдасца яму захаваць для сябе. А тэлевізар можна глядзець і з другога боку — адвярнуты да сцяны. Брацця, можам сабе дазволіць на такую экстравагантнасць тады, калі проста **жыць** — вось мастацтва ў часы шызафрэніі!

**МІРА ЛУКША**



# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Dowalają ze snajperskim opanowaniem. Trudno wyznać, skąd akurat prowadzą ogień! Jedna jest pewna metoda na uchowanie się: nie wychylać się. Ty za dużo nie podskakuj, siedź na dupie i potakuj... Nie broń się tedy do upadłego, bo zetrą cię na proch. Cnotka wśród żołdaków nigdy nie ocalała. Jak nie dawała się, to ją do piachu posłali... To prawo napadu i łupu. Czyli rozboju. Nie rzucą bestiom na rozszarpanie, jeśli okażesz uległość. Jak u niektórych dzikich zwierząt: brzuchem do góry, dobrowolnie. W przeciwnym razie koniec z tobą. Organizacja ludzi zmówionych stale ma rację.*

*(Czasopis, marzec 1993)*

**Гэта абавязкова трэба прачытаць. *Czasopis* друкуе ўспаміны Сакрата Яновіча з часоў, калі ён быў разбойнікам, забойцам, гвалтаўніком і гвалтаваным, садыстам і мазахістам. Усё гэта адбывалася ў здэгенераваным крынкаўскім наваколлі. Успаміны называюцца „Dolina pełna śloz".**

* * *

***Социологи утверждают, что среди выпивох революционеров больше, чем среди непьющих. Молодые пьяницы больше любят белорусский язык: каждый пятый желает, чтобы их дети учились на родном языке. В то время как за это высказывался лишь каждый десятый трезвенник.***

***(Рэспубліка, н-р 23)***

No to w gaz! П'е Беларусь!

* * *

*Jesteśmy Rejtanem tego Sejmu.*

*(Gazeta Polska, nr 10)*

**Спадары, без панікі.**

* * *

*— Do tej pory z dychotomicznym podziałem „Polak to katolik", „Białorusin — prawosławny" spotykałem się tylko w polskim piśmiennictwie, ostatnio dostrzegłem go w białoruskim piśmie „Czasopis". O co tu chodzi?*

*— Tam pracują młodzi ludzie i chciałoby się prosić i błagać, żeby oni wszystkie swoje siły kierowali na dobro naszego Kościoła prawosławnego, a pod jego opieką na pewno będą się dobrze czuć.*

*Jeżeli postawimy znak równości między narodowością i Kościołem, to będzie to niekorzystne dla naszego życia doczesnego i wiecznego, zgodnie z Pismem Świętym.*

*(Kurier Podlaski, nr 45, z wywiadu z księdzem Grzegorzem Sosną)*

**Хлопцы з „Часопіса" як здаецца, добра адчуваюць сябе пад апекай царквы. Навошта ім яшчэ і беларускасць, мы ў „Ніве" ніяк не можам дапяць.**

* * *

*Członkowie sejmowej Komisji Mniejszości Narodowych i Etnicznych na posiedzeniu 4 bm. uznali się za niekompetentnych do podjęcia ostatecznej decyzji w sprawie przekazania odbudowywanego obecnie klasztoru w Supraślu wyznawcom prawosławia lub katolikom.*

*Dyrektor Biura ds. Wyznań przy Radzie Ministrów Marek Pernal przedstawił posłom obecny stan prawny sprawy. Przypomniał, że w myśl ustawy z 1989 r. pierwszeństwo przy rozpatrywaniu roszczeń majątkowych ma Kościół Katolicki, więc dopiero po załatwieniu jego pozwu można będzie rozpatrzyć wnioski: prawosławny i unicki*

*(Gazeta Współczesna, nr 46)*

**Штосьці тут нам здаецца, што калі суд разгледзіць позву каталікаў, то праваслаўным застанецца адно складаць апеляцыю. Цікава, ці будуць судзіцца раптам уваскрэслыя базыльяне, ці, можа, прызнаюць, што справа ўжо закончылася.**

* * *

***Беларусы — трэцяя па колькасці дыяспара пасля немцаў і ўкраінцаў. На Беласточчыне, у ваколіцах Гданьска і Катовіц жыве каля 200 тысяч беларусаў, якія не пажадалі забыць родную мову і сваю культуру.***

***(Народная газета, н-р 40, орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь)***

**Так і хацелася б пабачыць дэлегацыю парламентарыяў, якая шукае беларусаў у ваколіцах Гданьска і Катавіцаў...**

**А дарэчы: дыяспара — гэта частка народа, якая жыве здалёк ад свайго этнічнага арэалу, прыблізна кажучы — эміграцыя. Беластоцкія беларусы — гэта не дыяспара, а карэннае жыхарства рэгіёна.**

* * *

*"Kobieta ma hamować swoje kokieteryjno-prowokacyjne zachowania", aby umożliwić mężczyźnie "wykształcenie pozagenitalnych form osobowej komunikacji" - z zaleceń łódzkiego kuratora oświaty.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 58)*

## З мінулага тыдня

"**Рэформы**, якія я пачаў, закончу, толькі не ведаю яшчэ з кім, у якім укладзе, але не адступлю назад" - заявіў прэзідэнт Лех Валэнса на пасяджэнні Краёвай камісіі "Салідарнасці", прысвечаным галоўным грамадскім і гаспадарчым пытанням краіны. Падчас сустрэчы ў адрас прэзідэнта кіраваліся крытычныя заўвагі наконт замаруджвання рэформаў і цяжкога сацыяльнага становішча грамадства.

**Пасол Ян Пянткоўскі** (ЗХН), старшыня сеймавай Камісіі па справах нацыянальных і этнічных меншасцяў - паводле меркаванняў "Газеты выборчай" - будзе новым міністрам юстыцыі. Цяперашні міністр **Збігнеў Дыка** пасля вяртання з прымусовага водпуску мае падацца ў адстаўку.

**Паслы** - члены саймавай Камісіі лучнасці з палякамі замежжа адмоўна паставіліся да прапановы Міністэрства ўнутраных спраў увесці візы для грамадзян былога СССР, якія жадаюць наведаць Польшчу. Паслы сцвердзілі, што ўвядзенне віз у першую чаргу нанясе ўдар па паляках на Усходзе, якім не пад сілу будзе заплаціць за эвентуальныя запрашэнні. Супраць папыткам абмежаваць гранічны рух выказваліся таксама пярэмышльскі, холмскі і сувальскі ваяводы.

**У Варшаве** на працягу шасці гадзін сяляне - члены прафсаюза "Салідарнасць" дэманстравалі супраць імпарту харчовых прадуктаў, які наносіць страты польскай сельскай гаспадарцы.

**Беластоцкая фірма "ІТО"** арганізавала ў Менску выставу шасці вытворцаў помпаў і іх вырабаў. Дзве фірмы атрымалі прапанову пачаць прадукцыю помпаў у Беларусі паводле сваіх ліцэнзіяў. Прадстаўнікі фірмы "ІТО" былі запрошаны Міністэрствам камунальнай гаспадаркі на перагаворы ў канцы сакавіка г.г.

**У гадавіну незалежнасці Літвы** на Сувальшчыне прабываў **Вітаўтас Ландсбергіс**, які быў госцем літоўскіх арганізацый у Польшчы. Былы прэзідэнт Літвы сустрэўся з жыхарамі Сейнаў і прыняў удзел у патрыятычнай урачыстасці ў Пунску.

**Па прапанове** прафсаюзаў ваяводскі камендант Паліцыі **Тадэуш Сэрватка** выслаў у Рымска-каталіцкую і Праваслаўную епархіі ў Беластоку лісты з просьбай назначыць паліцыйных капеланаў. Кандыдатам на капелана для праваслаўных паліцыянтаў прапануецца **а. Анатоль Конах.**

**У гэтым месяцы** ўступіў у сілу новы закон аб забароне абортаў. Згодна яму спыніць цяжарнасць можна толькі ў трох выпадках: калі пагражае яна жыццю або здароўю маці, калі з'яўляецца вынікам злачынства або калі абследаванні даказалі нязўхільнае пашкоджанне плода. Нельга рабіць аборт па грамадскіх прычынах, напрыклад, з-за цяжкой матэрыяльнай сітуацыі сям'і. Зараз у Беластоку ніводзін шпіталь не выконвае абортаў.

**У краіне** ўзрастае лік турыстычных агенцтваў, якія арганізуюць паездкі ў Чэхію, Славакію, Украіну або Расію жанчынам, жадаючым зрабіць аборт.

**У горадзе Паліцэ** ў Шчэцінскім ваяводстве паліцыя затрымала пяцёра грамадзян былога СССР, якія ад таргоўкі на мясцовым базары ўсходніх "турыстаў" запатрабавалі "падзяліцца" з імі прыбыткам. Пры арыштаваных членах мафіі была знойдзена зброя.

**У Саколцы** п'яны мужчына пфчфў сварку з жонкай і цёшчай, а потым кінуўся на іх з сякерай. У выніку параненыя жанчыны апынуліся ў шпіталі, а п'янтос - у арышчэ.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Хто і каго б'е ў Югаславіі.
- Інцыдэнт у Варшаве з іншага пункту гледжання.
- "Ніве" патрэбна цэнзура.
- Еўропа і забабоны.

### У АДКАЗ Г. ВАЛКАВЫЦКАМУ

„— Маладыя — усёведныя і адзінаправедныя „ватыканскія дэсантнікі"! Не распінайце дзеячоў БГКТ! Хіба вам чужыя хрысціянскія вартасці?!"

*(„Ніва" н-р 11, з інтэрв'ю з Г. Валкавыцкім „Час усё расставіць па сваіх месцах")*

Каемся! Каемся! Каемся!

**Ватыканскія дэсантнікі**

Ліст у рэдакцыю.

### Шаноўная рэдакцыя „Нівы"!

Дазвольце на старонках Вашага тыднёвіка павіншаваць заслужанага нашага дзеяча, старшыню Беларускага грамадска-культурнага таварыства доктара Аляксандра Баршчэўскага са званнем доктара honoris causa Мінскага універсітэта.

З гэтай нагоды жадаю майму аднагодку, лаўрэату гэтага высокага ганаровага звання многа гадоў шчаслівага і спакойнага жыцця і добрага здароўя. Жадаю яшчэ шаноўнаму лаўрэату шырокага кола прыяцеляў і плённага з імі супрацоўніцтва для справы беларусаў у Польшчы.

Жадаю таксама ўсім беларускім арганізацыям і іх дзеячам многа развагі і ўзаемнай талерантнасці. Гавораць, што згода будуе, а нязгода руйнуе.

Паважаная рэдакцыя, пасля пару гадоў непісання на беларускай мове пэўна ў маёй карэспандэнцыі знайшлося шмат памылак. Калі штосьць такое заўважыце, прашу Вас, папраўце. За недахопы перапрашаю, а за папраўкі дзякую.

Супрацоўнікам рэдакцыі жадаю ўсяго добрага, а для „Нівы" — многа чытачоў.

З пашанай:
стары земляроб
**Канстанцін Бялюк, Сідэрка.**

**Ад рэдакцыі:** Памылак у Вашай карэспандэнцыі мы не заўважылі. Спадар Канстанцін, Вы надта сціплы чалавек. За пажаданні шчыра дзякуем.

## DOCTOR HONORIS CAUSA

У Беларускім дзяржаўным універсітэце 22-га лютага 1993 года адбылася знамянальная ўрачыстасць. Вучоны савет БДУ прысвоіў загадчыку кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта Аляксандру Баршчэўскаму званне doctoris honoris causa ў здзяйсненне пастановы Савета Філалагічнага факультэта БДУ ад 15 снежня 1992 года аб уганараванні Аляксандра Баршчэўскага гэтым высокім званнем.

Гэтай вялікай ганарацыі прафесар Аляксандр Баршчэўскі быў удастоены за шматгадовую дзейнасць загадчыкам кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта і выкладчыкам гісторыі беларускай літаратуры. Ён — аўтар шматлікіх артыкулаў, падручнікаў і кніг, прысвечаных вывучэнню беларускай літаратуры, беларускаму фальклору і польска-беларускім літаратурным сувязям.

Алесь Барскі (гэта псеўданім прафесара А. Баршчэўскага) — аўтар многіх паэтычных зборнікаў, кніг перакладаў прозы рускай і ўкраінскай літаратуры, а таксама беларускай паэзіі на польскую мову. А. Баршчэўскі — вядомы публіцыст, артыкулы якога прысвечаны жыццю беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы і лёсу беларускага народа ўвогуле. Ён — нястомны грамадскі дзеяч Беларускага грамадска-культурнага таварыства, старшыня праўлення Польскага беларусазнаўчага таварыства, віцэ-прэзідэнт Асацыяцыі фалькларыстаў Беларусі.

З нагоды прысваення высокага звання, пасля рэкамендацыйнага слова рэктара БДУ члена-карэспандэнта Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь Ф.М. Капуцкага, Аляксандр Баршчэўскі гаварыў аб сабе і аб сваіх навуковых здабытках.

Вучоны Савет БДУ галасаваў за наданне ганаровага тытула Аляксандру Баршчэўскаму аднагалосна. Рэктар БДУ Ф.М. Капуцкі ўручыў грасцю Дыплом з наступным зместам:

*„Рэспубліка Беларусь, Беларускі дзяржаўны універсітэт. Дыплом н-р 2. Вучоны савет Беларускага дзяржаўнага універсітэта прысудзіў 22 лютага 1993 года грамадзяніну Рэспублікі Польшча прафесару, доктару філалагічных навук Аляксандру Баршчэўскаму званне Ганаровага доктара Беларускага дзяржаўнага універсітэта за выдатныя дасягненні ў даследаванні і пашырэнні навуковых ведаў пра Беларусь і беларускую літаратуру. Рэктар прафесар Ф.М. Капуцкі. Сакратар Вучонага савета прафесар М.І. Юрчук, Мінск, 22 лютага 1993 г.".*

Заўважым, што прысваенне Ганаровага доктара Аляксандру Баршчэўскаму, — гэта ўпершыню ў гісторыі філалагічнага факультэта БДУ і ў другі раз у гісторыі Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Прысваенне звання doktoris honoris causa Аляксандру Баршчэўскаму сталася сапраўднай падзеяй у жыцці Белдзяржуніверсітэта. Пры гэтай нагодзе пажадаем жа нашаму вернаму сябру і калегу, паэту і педагогу многіх плённых для беларускіх навукі і паэзіі гадоў жыцця.

**ДЭКАН**
**філалагічнага факультэта**
**Белдзяржуніверсітэта,**
**член-карэспандэнт**
**АН Рэспублікі Беларусь**
**А.А. ЛОЙКА**

## МЯНЕ ПЫТАЮЦЬ

Калі пры канцы 40-х і на пачатку 50-х гадоў народная ўлада ўвяла абавязковыя кантынгенты мяса, малака, збожжа селянін, які меў лепшую зямлю не быў у стане выканаць назначаныя дзяржавай нормы. Стала яшчэ горш, калі ўвялі т. зв. ФОР, якога сэнс быў такі: чым больш зямлі, тым больш ідыятычны падатак. Напрыклад, калі селянін меў 1 гектар плацію 100 зл., а калі 10 — падатак узрастаў да 3000 зл. Вялася палітыка знішчэння т. зв. „кулакоў".

У тым часе шмат гаспадароў выракалася сваёй зямлі, будынкаў і ўцякала ў гарады. Ад іншых гвалтам забіралі зямлю за нявыплачаны ФОР. Некаторыя, якіх тады пазбавілі зямлі ўжо паўміралі, іх дзеці або ўнукі, што жывуць у гарадзе, нічога не хочуць, але ёсць шмат пакрыўджаных камуністамі людзей, якія хацелі б сваю страчаную ў 40-х і 50-х гадах маёмасць атрымаць назад.

Мяне часта пытаюць, у які спосаб могуць яны старацца атрымаць свае будынкі і зямлю, якую ім гвалтам адабралі. Я, як старшыня сельскагаспадарчай камісіі Гміннай рады ў Нарве, не магу даць кампетэнтнага адказу, ні параіць ім да каго трэба ім звярнуцца.

Дарагая „Ніва", парай нам, што рабіць, каб зямля магла вярнуцца да ўласнікаў, ад якіх была яна забраная з прычыны дурнаты тадышніх уладаў.

За параду буду шчыра ўдзячны
**М. ЛУК'ЯНЮК**

**Ад рэдакцыі:** Паважаны спадар Мікалай Лук'янюк! На вашае пытанне мы шукалі адказу ў Ваяводскай управе ў Беластоку. Кожны, хто патрацію зямлю ў 40- ці 50-х гадах, можа звяртацца індывідуальна ў адпаведнія Urzędy Rejonowe. Для гміны Нараў такі Urząd знаходзіцца ў Гайнаўцы. Там кожную справу разглядаюць асобна. Калі хтосьці сам падпісаў дакумент, што здае зямлю ў калгас, праўдападобна можа мець цяжкасці атрымаць яе назад. Але ў выпадку, калі гэта адбылося інакш, калі быў ён прымушаны аддаць зямлю ў выніку шантажу ці парушэння права, ёсць вялікі шанц атрымаць сваю маёмасць.

## ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**Дарагія Суродзічы!**

З нагоды 75-х Угодкаў 25-га Сакавіка 1918 г. перасылаем Вам нашыя ўрачыстыя віншаванні з пажаданнямі хуткага здзяйснення тых шляхетных мэтаў Сакавіковых, якія ў сваім сэрцы і душы тоіць кожны беларускі патрыёт.

Акт 25-а Сакавіка прыпамінае нам важнасць нашага асабістага росту, неабходнага для рэалізацыі прадпрынятых аднойчы пастановаў, бо дэцыдуючым тут з'яўляецца сам чалавек і нічога іншага. І ніколі, здаецца, момант гэты не быў так важным, як сягоння.

З нязломнай ідэяй незалежнасці, спяшаліся дэлегаты на кангрэс з далёкіх куткоў Беларусі, шукаючы ў блакітным небе праменяў пуцяводнае зоркі. Суседзі з усходу і захаду паняволілі і падзялілі Беларусь паміж сабой ганебным Рыжскім трактатам у 1921 годзе.

Аднак жа паходні незалежнасці запаленыя на 1-ым Усебеларускім Кангрэсе не пагаслі назаўсёды. Полымя незалежнасці было ажыўлена ізноў у форме Слуцкага Паўстання ў 1921 годзе і з гонарам данесена да 2-га Усебеларускага Кангрэса 27 чэрвеня 1944 года.

Ушаноўваючы 75-ыя Угодкі 25-га Сакавіка 1918 года, будзем імкнуцца, каб данесці ідэал незалежнасці Беларусі да 3-га Усебеларускага Кангрэса ў вольнай і незалежнай Бацькаўшчыне.

Няхай жыве Беларуская Народная Рэспубліка і яе змагарны Народ!

**За Выканаўчы камітэт**
**Фэдэральнай рады**
**Беларускіх арганізацый у Аўстраліі**

**ПАЎЛА ГУЗ**
**Сакратар**

## ІМ ЗА СТО ГОД

На Беласточчыне пражывае даволі многа пажылых людзей, а сярод іх 120 чалавек мае па сто і больш гадоў. У Міхалоўскай гміне больш чым сто гадоў пражылі між іншым Юзэф Грыка з Залешанаў, Наталля Чэрнякевіч з Масцiскаў, Мар'я Мурашкоўская з Бахуроў, Мар'я Бароўская і Вінцук Павільч з Навасадаў ды Сцяпан Крэнтоўскі з Шымкаў.

У Бельскай гміне другое стагоддзе жыцця распачалі, між іншым, Дар'я Ярашук з Відава, Мар'я Чыквін з Райска, Анастасія Вакулеўская з Галадоў, Харытына Врублеўская з Дзяніскаў і Сцепаніда Сычэўская са Стрыкоў.

У Гарадоцкай гміне больш ста гадоў маюць Алімпія Лебядзінская з Гарадка, Кліменцій Абрамовіч з Грыбаўцоў і Ян Маліноўскі з Навасёлкаў.

Другое стагоддзе „разманілі" Матрона Ніканюк з Гайнаўкі ды дзве асобы з Гайнаўскай гміны — Пелагія Ярашук з Шастакова і Пракоп Балтрамюк з Новага Корніна.

Найстарэйшымі людзьмі ў Нараўчанскай гміне з'яўляюцца Еўдакія Шэршуновіч з Бернадскага Моста і Анастасія Клімюк з Плянты.

У Сямяціцкай акрузе ў другое стагоддзе „пераступілі" дзве Мар'і: Мар'я Мілкоўская з Сямяціч і Мар'я Мудэль з Клекатова ў Сямяціцкай гміне. Столькі ж асоб і ў Арлянскай гміне: Анна Садоўская з Мокрага і Якуб Пыз з Кашалёў.

Па адной асобе, якім ужо звыш ста гадоў, пражываюць у, між іншым, Кляшчэлеўскай, Мельніцкай, Мілейчыцкай, Белавежскай, Дубіцкай і Шудзялаўскай гмінах.

Сярод старажылаў, якія пражываюць у вышэйзгаданых гмінах, найбольш бо 109 гадаоў налічвае сабе Дамініка Вілюк з вёскі Вілюкі ў Дубіцкай гміне.

На заканчэнне трэба дадаць, што сярод 120 найстарэйшых людзей у Беластоцкім ваяводстве восемдзесят асоб гэта жанчыны і сорак — мужчыны. Як відаць, жанчыны куды лепш пераносяць усе цяжкасці на сваім жыццёвым шляху.

**ЯНКА ДАРОЖНЫ**

## ПАСТКА ГАНЬБЫ

Вядома, што на нашых базарах ад турыстаў з-за ўсходняй мяжы можна многа чаго купіць; пераважна добрых і танных тавараў — гэта нас не б'е па кішэні так, як пакупкі ў крамах. Але ў „рускіх" можна купіць і розныя свінствы. Я, як ахоўнік прыроды, не магу дараваць,што польскія тамажнікі прапускаюць гандляроў з забойнымі прыладамі на рэдкіх звяроў наших лясоў. Прывозяць яны пасткі-капканы са стальнымі сківіцамі на вельмі моцнай пружыне. І калі ў гэтыя пашчэнкі пападзе нейкі звярок, як ліса, кот, куна, заяц, а нават каза (бо прывозяць і большыя пасткі) дык справе канец. Звярок, пакуль кончыцца, гадзінамі страшэнна мучыцца, папаўшы ў тыя сківіцы. У нас забаронена ставіць розныя пасткі і, здаецца, гэтыя смерцяносныя прылады не прадукуюць. Але браканьеры ў нас ёсць і базар стварае для іх вельмі добрыя ўмовы, каб прыдбаць гэтыя варварскія прыборы. Нельга браць прыклад з іх, можна толькі іх шкадаваць за іхнюю нечалавечнасць і здзекі над звярынай. У СНД пасткі на звярыну звычайна прадукуюцца і ўжываюцца. Чуў я ад многіх, што на Беларусі вельмі рэдка можна спаткаць зайца ці іншую звярыну. А што гаварыць пра іншыя краіны СНД, напрыклад Расею.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

## АД ІМЯ НАРОДА

Пра канфлікт каменданта паліцыі ў Нарве з мясцовай адміністрацыйнай уладай пісаў ужо ў "Ніве" Аляксандр Максімюк (нумар 40 ад 4 кастрычніка мінулага года). У вялікім скарачэнні справа выглядае так. Раённы камендант паліцыі ў Гайнаўцы назначыў гмінным камендантам у Нарве Кшыштафа Паўловіча. З яго кандыдатурай не пагадзіліся ні Гмінная ўправа, ні Рада гміны. Раённы камендант прыняў гэта да ведама, але свайго рашэння не змяніў.

Канфлікт гэты цягнецца ўжо больш за год, што напэўна не спрыяе добрай атмасферы ў гміне.

У студзені г.г. войт Ян Тапалянскі напісаў ліст у Галоўную камендатуру паліцыі ў Варшаве з просьбай аб інтэрвенцыі. Звярнуў ён увагу на тое, што на нацыянальна змешанай тэрыторыі супрацоўніцтва між мясцовай уладай і паліцыяй павінна быць асабліва добрае. У адказе, з датай 29 студзеня, ёсць такі фрагмент: "Faktem jest, że w skład Komisariatu Policji w Narwi wchodzą policjanci obu wyznań i narodowości. Nie stanowi to jednak zdaniem Komendanta Wojewódzkiego Policji w Białymstoku żadnej przeszkody w wykonywaniu obowiązków służbowych. Nadmienia jednocześnie, że w dniu 17.12.1992 r. otrzymał pismo radnych Gminy Narew, w którym w imieniu społeczeństwa Gminy Narew składają podziękowanie za satysfakcjonującą służbę tutejszej policji.

W świetle przedłożonych wyjaśnień Komendanta Wojewódzkiego Policji w Białymstoku podnoszone przez Pana zarzuty nie można uznać za zasadne".

У святле вышэй напісанага нараджаецца пытанне: калі група радных дзякуе паліцыі за добрую службу ад імя грамадскасці гміны Нарва, тады ад чыйго імя выступае цэлая Гмінная рада, якая рашуча адкідае Кшыштафа Паўловіча як мясцовага каменданта?

Канфлікт, відаць, будзе трываць прынамсі яшчэ год, да самаўрадавых выбараў. Бо хтосьці тут мусіць змяніцца. Калі не камендант паліцыі, дык Гмінная рада.

**а к**

## PRZEGLĄD PISANEK

Wojewódzki Ośrodek Animacji Kultury w Białymstoku ogłasza przegląd twórczości pisankarskiej na terenie województwa białostockiego.

Na przegląd można wykonać prace na pełnym jajku lub wydmuszkach.

Przegląd obejmuje dwie grupy twórców: dorosłych i dzieci do lat 15.

Prace należy przesyłać na adres WOAK w Białymstoku do dnia 26 marca 1993 r. za pośrednictwem Ośrodków Kultury lub bezpośrednio na adres organizatora, ul. Kilińskiego 8.

Jeden autor powinien przedstawić do 10 pisanek.

Nadsyłane prace przechodzą na własność organizatora konkursu.

Pisanki winny być starannie zapakowane tylko nie w woreczkach foliowych.

Do przesyłki należy dołączyć kartę zgłoszenia.

Nagrody i wyróżnienia przyzna jury, które jest upoważnione do ustalenia ich wysokości i ilości.

Twórcy mogą uczestniczyć w targach pisanek codziennie w dniach 22 marca do 9 kwietnia 1993 r. lub przekazać pisanki organizatorom Targów do sprzedaży komisowej. Pisanki należy dostarczać do dn. 19 marca 1993 r. do Pracowni Plastyki i Sztuki Ludowej Wojewódzkiego Ośrodka Animacji Kultury w Białymstoku, ul. Kilińskiego 8.

Wszelkich informacji udziela Pracownia Plastyki i Sztuki Ludowej WOAK, p. 204, tel. 328-652, 320-724 wew. 24 codziennie w godz. 8,00 — 15,00.

## ДЗЕ ЁСЦЬ ЧАЛАВЕК, ТАМ БУДЗЕ ПАЖАР

24 лютага гэтага года адбылася прэс-канферэнцыя Ваяводскага каменданта Дзяржаўнай пажарнай стражы ў Беластоку. Камендант Кшыштаф Вайтэцкі, яго наместнік, раённыя каменданты ў Беластоку і Лапах ды кіраўнікі ўсіх важнейшых аддзяленняў Ваяводскай камендатуры зазнаёмілі журналістаў з галоўнымі праблемамі супрацьпажарнай абароны ў 1992 г. і асноўнымі накірункамі дзейнасці Дзяржаўнай пажарнай стражы ў 1993 годзе.

Сёння юрыдычна сітуацыю пажарнікаў нармуюць два законы, прынятыя Сеймам РП у жніўні 1991 года: Закон аб супрацьпажарнай абароне і Закон аб Дзяржаўнай пажарнай стражы. Паводле іх, Дзяржаўная пажарная страж гэта прафесійная часць для барацьбы з: пажарамі, стыхійнымі катастрофамі ды іншай мясцовай небяспекай.

Дзяржаўная пажарная страж з'яўляецца арганізатарам — а ў будучыні галоўным звяном — Краёвай ратаўнічатушыльнай сістэмы, якая мае быць створана на працягу трох гадоў. Істотным элементам гэтай сістэмы павінна стаць Добраахвотная пажарная страж, падпарадкаваная органам тэрытарыяльнага самакіравання. У Беластоцкім ваяводстве дагэтуль палову пажараў тушылі якраз добраахвотнікі. Ёсць аднак пагроза, што у сувязі з фінансавымі цяжкасцямі паасобных гмін, іх роля будзе змяншацца — трэба гэтаму супрацьдзейнічаць.

Што найчасцей гарыць? Лес, вёска і плён працы гаспадара — 80% усіх пажараў. Пагрозу ўсё павялічваюць бяздумная меліярацыя, якая, замест рэгуляваць узровень вады, вядзе да яе празмернага высушэння, ды бескантрольная высечка лесу. Нармальны, здаровы лес не гарыць так хутка як хворы, перацярэблены, з сухім галлём. Пажарнікі мараць пра тое, каб знайшліся сродкі на кансервацыю меліярацыйных равоў і правядзенне вадаправодаў ва ўсіх вёсках. Гэта значна павысіла б эфектыўнасць іх дзейнасці.

А так, нават надвор'е супраць іх. Апошнія цёплыя і сухія гады значна павысілі колькасць пажараў. У мінулым, рэкордным годзе, на тэрыторыі нашага ваяводства было 1456 пажараў (на 349 больш, чымсьці ў 1991 г.). Кожныя суткі пажарная страж удзельнічала ў 5 — 7 здарэннях, 4 з якіх — пажары. Пажарнікі баяцца, што гэты год будзе яшчэ горшы. Калі ў мінулым годзе ў лесе і на лугах (сушка) агонь першы раз успыхнуў 16 лютага, дык сёлета ўжо ў студзені ў гэтых месцах гарэла 8 разоў.

Што б ні казаць аб прычынах пажараў, галоўнай застаецца сам чалавек, яго брак адказнасці і ўяўлення ці звычайная бязглуздасць. Пажарнікі кажуць: „дзе толькі паявіцца чалавек, там напэўна будзе і агонь".

**М.В.**

# ЦІ ПУТРА БОЛЬШ ПАПУЛЯРНЫ ЗА БУЯКА?

Штораз большую папулярнасць сярод формаў праводзення свабоднага часу здабывае ў нашым жыцці не філармонія і не канцэрт аўтарскай песні, а сустрэча палітыка з выбаршчыкамі ці зацікаўленым палітычнымі пытаннямі людкоўем. У Беластоку сустрэчы такія адбываюцца ў рамках „Салона незалежных" — імпрэзы арганізаванай Ваяводскім асяродкам анімацыі культуры. 1 сакавіка гэтага года адбылася чатырнаццатая сустрэча гэтага цыкла. Гасцямі „Салона незалежных" былі гэтым разам пасол Паразумення „Цэнтрум" Кшыштаф Путра і пасол Уніі працы Збігнеў Буяк. У перапынку з міні-канцэртам выступіла Малгажата Братэк, якая і сказала, што сёння палітыкі адабралі бардам хлеб.

Збігнева Буяка запыталі як мае гучаць пытанне рэферэндуму ў справе закона аб абортах. Буяк адказаў, што ён асабіста за тым, каб закон гэты адкінуць поўнасцю. Закон такі, аргументаваў ён, можна спрабаваць увесці тады, калі зрэфармуем дзяржаву, калі будзем ведаць, якая ў ёй структура ўлады і якія ейныя кампетэнцыі.

Пытанне да Кшыштафа Путры: ці ёсць у Польшчы крызіс аўтарытэтаў і чаму Паразуменне „Цэнтрум" яго паглыбляе? Путра адказаў, што яго партыя не крытыкуе аўтарытэтаў, але ўсяго канкрэтныя дзеянні Бельведэра і яго колаў. Збігнеў Буяк дапоўніў тут, што спадзяванні на нейкую завіруху ў краіне, якая змяце палітычную эліту, неабасноўныя. Уся сіла дэмакратыі ў тым, што калі нават і выкінем з пасады нейкага міністра, то ў дэмакратыі нічога яшчэ не рассыплецца, бо для гэтай сістэмы характэрны механізм самарэформы, якога не хапала ў сацыялізме.

Чаму Путра не любіць Валэнсы? Валэнса, адказаў Путра, ішоў на выбары з зусім іншай праграмай, а цяпер пачаў ён, як кажуць у палітычным жаргоне, „ступаць на левую нагу".

Шмат увагі адводзілася дыскусіі на тэму формаў стварэння ў Польшчы гэтак званага сярэдняга класа. Існуе ў Польшчы, сказаў Буяк, мадэль, паводле якой трэба распрадаць усю маёмасць, затым пачакаць некалькі дзесяткаў гадоў, калі дзеці людзей, якія гэту маёмасць набудуць, складуць менавіта той сярэдні клас. З гэтай мадэллю Збігнеў Буяк не згаджаецца, бо, паводле яго, на сярэдні клас грамадства складаецца таксама і фермер, і высокакваліфікаваны рабочы.

Гаворачы аб арышце (у італьянскім стылі) сакратара пасольскага клуба Паразумення „Цэнтрум", Кшыштаф Путра заўважыў, што польскае тэлебачанне спецыяльна маніпулюе інфармацыяй, бо калі паліцыя ехала зрабіць вобыск, то тэлебачанне ўжо чакала пад дзвярыма. Таксама за Буякам у Беласток, гаварыў Путра, тэлебачанне прыехала, але калі Паразуменне „Цэнтрум" правяло ў Беластоку мітынг з удзелам 5 тысяч людзей, тэлебачання чамусьці не было.

Ці такія паводзіны тэлебачання вырашаюць аб яго сімпатыі з левым рухам — судзіце самі. Ад сябе скажу толькі пра сімпатыі залы. Сустрэча, як няцяжка здагадацца, згуртавала і прыхільнікаў Паразумення „Цэнтрум" („цэнтрыстаў", агульней кажучы), і прыхільнікаў Уніі працы („ружовых", як часамі можна пачуць на вуліцы пра левы рух). Калі Буяку ўдалося нешта звастрасловіць, апладзіравала яму палова залы — другая палова з абурэннем азіралася, хто гэта пляскае. Калі Путра сказаў нешта кемнае — ролі мяняліся. Сустрэча з пасламі — гэта новая забаўляльная форма ў нашым жыцці. Кажу вам.

На заканчэнне, у сувязі з тым, што наведаў Беласток палітык усё-ткі агульнапольскага фармату, дзве інфармацыі пра Буяка асабістага характару. Адна з журналістак запытала яго, чаму не апранаецца ён у шыкоўныя касцюмы, як гэта паслу прыстоіць. Збігнеў Буяк адказаў, што ў яго два касцюмы, з якіх ён вельмі задаволены — адзін падарылі яму ў ваеннае становішча варшаўскія краўцы, а другі купіў на базары ад расейцаў. А адной пенсіянерцы Буяк адказаў, што адчувае пэўную збянтэжанасць, атрымліваючы сваю пасольскую зарплату, у сувязі з чым успамагае ўсякія дабрачынныя фонды і не выдаткоўвае яе на шыкоўную вопратку.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

## ТЭАТР З МЕНСКА

Ад 25 да 27 сакавіка на сцэне Беластоцкага драматычнага тэатра выступапіць будзе Тэатр ім. Янкі Купалы з Менска.

Прадбачваецца ў яго выкананні тры п'есы: "Рэвізор" Гогаля /25.03/, "Дом на мяжы" Мрожка /26.03/ і "Тутэйшыя" Купалы /27.03/.

# ПАЛІТЫКА, ГРОШЫ І КУЛЬТУРА

2 сакавіка г.г. былі запрошаны ў Міністэрства культуры і мастацтва прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў, якія вядуць выдавецкую або культурную дзейнасць і якая найчасцей патрабуе падтрымкі з боку дзяржаўнага бюджэту.

Ужо другі год дзяржаўныя датацыі накіроўваюцца толькі на канкрэтную мерытарычную дзейнасць паводле праектаў і каштарысаў, якія прадстаўляюць паасобныя арганізацыі ў сувязі з планаванымі імі мерапрыемствамі.

Вітаючы беларускіх дзеячаў гаспадар сустрэчы віцэ-міністр Міхал Ягела паінфармаваў, што бюджэт міністэрства ў гэтым годзе павышаны толькі на 20%, аднак меншасцям прадбачваецца пабольшыць датацыю на 80% у параўнанні з мінулым годам. Для беларускай меншасці Міністэрства культуры і мастацтва плануе датацыю велічынёю ў 2475 мільёнаў злотых.

У сваім выступленні віцэ-міністр М. Ягела сказаў, што цяпер у яго штораз менш аргументаў, каб дабівацца датацый беларусам у Польшчы, і гэта таму, што падобнай дзейнасці не вядзе ўрад Рэспублікі Беларусь у адносінах да палякаў, пражываючых на яе тэрыторыі.

Вядучая гэты сход дырэктар Дэпартамента па справах нацыянальных меншасцяў Багуміла Бэрдыхоўска паінфармавала, як гэтую агульную суму — 2475 мільёнаў злотых міністэрства прапануе падзяліць.

Датацыя на „Ніву" дае рэдакцыі магчымасць нават ліквідаваць задоўжанасць (спадчыну пасля разводу з Таварыствам). Поўную суму, якую патрабавала — 116 мільёнаў злотых — атрымала толькі Літаратурнае аб'яднанне „Белавежа". 794 мільёны прадбачваецца на дафінансаванне фэстаў і іншых мерапрыемстваў, арганізаваных БГКТ, 80 — БАСам. Асацыяцыя беларускіх журналістаў, які з'яўляецца выдаўцом „Часопіса", мае таксама забяспечаныя сродкі на выданне польска-беларускага слоўніка, які ўжо рыхтуецца журналістам „Нівы" Янам Максімюком.

Датацыі не атрымала рэдакцыя „Przeglądu Prawosławnego". Дырэктар Багуміла Бэрдыхоўска паясніла, што Міністэрства культуры і мастацтва не займаецца канфесійнымі праблемамі і не мае юрыдычнай падставы фінансаваць рэлігійныя часопісы ні арганізацыі.

Старшыня Праваслаўнага брацтва Міхал Малафееў акрэсліў палітыку ўрада Польшчы як дзейнасць, якой мэтай будзе бязбожніцтва і татальная атэізацыя нацыянальных меншасцяў.

Адмоўна ацаніў дзейнасць Міністэрства культуры і мастацтва Ян Сычэўскі з БГКТ, выказваючы погляд, што яе рэзультаты вядуць да падзелаў сярод беларускай меншасці. Дадаў аднак, што намеры адказных за гэтую палітыку асоб маглі быць добрымі. На жаль, з гэтай агульнай фразы я не зарыентаваўся, якія рашэнні меў на ўвазе спадар Я. Сычэўскі і таму не магу з імі пазнаёміць чытачоў „Нівы".

Сакрат Яновіч у сваім выступленні аднёсся да выказвання віцэ-міністра М. Ягелы. *Не можа ніякая меншасць быць заложнікам палітыкі суседняй дзяржавы — гаварыў С. Яновіч. — Мы звяртаемся да ўрада Польшчы як грамадзяне гэтай краіны. Мы не можам несці палітычную адказнасць за палітыку ўрада Беларусі, хаця маральна можам адчуваць гэта па-рознаму.*

Міністэрства культуры і мастацтва прадставіла свае прапановы падзелу грошай прадбачаных на падтрымку беларускай культуры і выдавецтва руху ў 1993 г. Прысутныя маглі прапанаваць свае папраўкі. Сума да падзелу аставалася б аднак такая самая. Значыць, змены маглі наступіць у такім варыянце: аднаму забраць, другому дадаць. На шчасце не дайшло паміж беларусамі да сваркі з-за грошай, што рэдка нам здараецца. Станавімся нармальнымі, ці што?

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**




**Паважаны Спадар Рэдактар „Нівы"!**

Я вельмі ўдзячны Вам за рэкламу люблінскай беларусістыкі, якая толькі што арганізуецца. Думаю аб рубрыцы „Мы прачыталі" ў „Ніве" ад 21.02.1993 г. Маладыя чытачы Вашага цікавага тыднёвіка падумаюць аб тым, каб прыйсці да нас вывучаць беларускую культуру, мову, літаратуру. Мы аб гэтым думаем сур'ёзна і калі не верыце, трэба пачакаць і паглядзець, як гэта ўсё будзе, а не ўсякія дасціпныя „думачкі думаць".

Я думаю, што беларускія патрыёты будуць задаволены, што ў Польшчы ўзнікае яшчэ адна, пасля Варшавы, кафедра і секцыя з назвай **„беларуская філалогія"** і падзякуюць нам добрым словам.

Ваша (Рэдакцыі) „думачка, ці назоў Zakład Filologii Białoruskiej ва універсітэце ў Любліне не з'яўляецца адно покрыўкай яшчэ аднаго Zakładu Filologii Ukraińskiej", якая Вам (камэнтатару) „пхаецца ў галаву", дасціпная, але нервальная і зласлівая. Добра, што гэта толькі „думачка", а не „думка".

Успамінайце часам пра нас і добрым словам.

З добрымі пажаданнямі і пашанай

**МІХАСЬ ЛЭСІЎ,**
**Люблін**

САКРАТ ЯНОВІЧ

# ЗАЗІМАК НАД ІСЛАЧЧУ /8/

Беларускі аўтарскі вечар у польскім пасольстве. Самы знакаміты з маіх наогул. Элітарная публіка. Першакласныя алкаголі, дэсерты. Так патрактаваны даў я з сябе ўсё, бо было каму. Тры гадзіны кіпельнай размовы, палемікі без фораў. Улюбёная мною сітуацыя: адзін супроць усіх!

Беларусы на мяне - што пераацэньваю Польшчу. А палякі - што перабольшваю значэнне Беларусі. О, цудоўная аказія анікому не прызнаць рацыі! І пайсці вузенькай мяжою паміж інтэлектуальнай абразаю і паказам памылковасці думак у апанентаў.

Па-азартнаму не адчуваў стомы. Пакуль не давялося ў заканчэнне ўстаць з паклонам удзячнасці для аўдыторыі. Раптам падзеравянелі ногі, рукі, галава.

Акрыяў у марознае шпацыраванне вёрстамі на Даўгінаўскі тракт, на начлег у знаёмага. Меліся мы ўтраіх (з Таняй) адвесці душу на перадначавогоднім баліку ў адной выдавецкай фірме. Але, бы на шчасце, засталі там пустку пабоішча ды ўпалоханую чародку прыбіральніцаў. - *А вы чего? Уходите отсюда! Какой вам ещё бал?! Здесь все и всем только морды набили!..*

Засыналася ў холадзе тандэтна пабудаванае кватэры. Гудзевіла ў мазгах тая дыскусія пра Беларусь. У салонным камфорсце яе ўшчэнт забыўся я пра тое, што ў гэту зімовую перадпоўнач бліскае мільённымі агнямі - за вокнамі ў гардынах - заядла маскальскі Мінск. У беларускай Божаю ласкаю сталіцы толькі двух чалавекаў з кожных сто непрымушона гавораць "*на мове*". Нягледзячы на так трагічныя прапорцыі, усё ж, схіляюся да аптымізму. На сваім вяку пабачыў я ўдосталь асімілятарскую моц дзяржавы. У пасляваенныя гады ў Крынках майго дзяцінства даволі было незнарокам загаварыць да сябрукоў папольску, каб крыклівa празвалі цябе "*палячыкам*". Праз сорак гадоў пасля, такім жа смургелям, я ўжо агідны **Rusek**.

Бывала - прадавалі "Нівы" ў гміне і да паўтысячы экземпляраў... Сёння - адзін, аднаму мне / плюс *Czasopis*/.

Пануры занятак глядзець беларускае тэлебачанне. Уражанне ад яго такое, што суверэнную Рэспубліку ўтварыла якаясьці жменька беларускіх акупантаў "*истинно русской Белоруссии*"... Гэта відаць і па сотнях газетаў, у якіх толькі загалоўкі нярускія /інача не атрымалі б дазвол на выданне/. Беларусь жыве як бы ў чаканні вяртання камуністаў. Не хоча плаціць высокую цану за самастойнасць.

Але заплаціць. Будзе слёзы ліць ды стагнаць, і аніяк не пазбудзецца незалежнасці. Шызафрэнічны парадокс нашай нацыянальнай гісторыі.

Я ўжо раней тлумачыў тую гістарычную непазбежнасць. Нагадаю: ключ да палітычнага становішча ляжыць не ў антыбеларускім парламенце Беларусі, а ў Крамлі. Расія не можа зноў стацца чырвонай. На гэта існуюць дзве капітальныя прычыны, на смерць і жыццё звязаныя паміж сабою.

Першая: уваскрашэнне сярпа з молатам над Масквою абазначала б, што цалкам кантраляваны цяпер Амерыкаю свет не прадаў бы сюды ні пуда збожжа /свайго ж ніколі не хапала пры саветах далей за паўгода/. Ратунак быў бы, праўда, ды ў масавых расстрэлах галодных бунтаў. Другая - дарэшты аднaзначная: Расійскай Дзяржавай - ад яе цэнтра і да раённых нізоў - кіруе тая ж наменклатура, шматмільённая, арганізаваная, у якое, вядома, няма ахвоты быць перавешанай на галінах здраджанымі ёю фанатычнымі бальшавікамі.

У яе, натуральна, асабліва доўгія рукі ў Беларусі менавіта, і яна шпарне імі па шапцы тутэйшым чырвоназорным правіцелям, калі тыя занадта падымуць галовы. Таму трэба думаць, што ў Мінску, аднак жа, пальецца кроў. Не будзе гэта разня беларусамі рускіх, але масакра сіротаў былога СССР і КПСС.

У Расіі дасканала разумеюць, што камунізм у Беларусі заўсёды быў рускім і не задаволіцца ён пераняццем улады толькі ў Рэспубліцы. Абавязкова зойме мецца тады рыхтаваннем пажару на расійскай зямлі.

*/Працяг будзе/*

## СВЯТА 40 МУЧАНІКАЎ



22 сакавіка (9.03. па ст. стылю) Царква ўшаноўвае памяць Севастыйскіх Мучанікаў. Усе яны былі рымскімі жаўнерамі і адзначаліся асаблівай сілай і адвагай. Калі выявілася, што яны сталі хрысціянамі, былі ўчынены ўсялякія захады, каб пераканаць іх адрачыся ад веры. Іх любві да Хрыста не пахіснулі ні абяцанні выратавання, ні грозьбы пакутніцкай смерці. Пасля зняволення і мучэнняў іх паставілі раздзетымі на пакрытае лёдам Севастыйскае возера, што ў Арменіі. Каб павялічыць іх пакуты, на берагу возера была ўстаноўлена лазня з гарачай вадою. Толькі адзін з іх не вытрымаў і пабег у напрамку лазні ў пошуках ратунку, але ўпаў мёртвым на яе парозе. Астатнія стаялі на марозе і непахісна ўсхвалялі Госпада, а Ён умацоўваў іх веру і сілы. Ноччу нябеснае святло азарыла і сагрэла іх, а над іх галовамі з'явіліся пакутніцкія кароны. Адзін з вартаўнікоў, які пільнаваў пакутнікаў, пабачыўшы мужнасць і веру мучанікаў, паверыў у Хрыста і сам далучыўся да іх. Раніцай яны падвяргаліся далейшым мукам. Калі памерлі, целы 40 Севастыйскіх Мучанікаў былі спалены, а косці ўкінуты ў возера.

Падзея гэта здарылася каля 320 года, калі пры панаванні імператара Лікінія па ўсёй Малой Азіі прайшла хваля праследаванняў хрысціян.

**С.Н.**

## ВЕЛІКАПОСНЫЯ НЯДЗЕЛІ

**III НЯДЗЕЛЯ — 21 САКАВІКА — КРЫЖАПАКЛОННАЯ.**

Падчас Ютрані (у суботу вечарам) пасярэдзіне царквы на аналоі кладзецца Св. Крыж вернікам для паклання. Застаецца ён ляжаць у гэтым месцы, дзе звычайна ляжыць ікона заступніка царквы, да пятніцы чацвёртага тыдня, які таксама, як і нядзеля, называецца крыжапаклонным. У гэты дзень усхваляецца Святы Крыж і плады крыжовай смерці Хрыста. Царква паказвае вернікам Св. Крыж як крыніцу духоўнай надзеі ў сярэдзіне Святой Чатырадзесятніцы дзеля падтрымкі і ўзмацнення нашых сіл. З'яўляецца гэта адначасна і напамінам аб нашым абавязку наследаваць Хрыста, які добраахвотна прыняў за нашы грахі смерць на Крыжы, каб мы малі атрымаць Збаўленне. Паводле Св. Іаана Златавуснага „крыж — гэта абраза для яўрэяў, бяздум'е — для язычнікаў, але для нас — Збаўленне...", а Св. Яфрэм Сірын гаворыць так: „Крыж — уваскрашэнне памёрлых, Крыж — надзея Хрысціян, Крыж — суцяшэнне бедных, Крыж — бацька сірот, Крыж — святло для прабываючых у цемры...".

—У Евангеллі — Марк VIII, 34 — IX, 1 — чытаем аб абавязку кожнага чалавека несці свой крыж, ідучы за прыкладам Збавіцеля. Варта ведаць, што ў гэтую нядзелю, на канец Літургіі, свяшчэннік не выносіць Крыжа для цалавання вернікамі, бо Крыж ляжыць ужо на аналойчыку пасярэдзіне царквы.

*(Працяг будзе)*
**С.Н.**

### Х. ПЕРЫЯД "ПАЗІТЫВІЗМУ"

Калі гаварыць аб перыядзе "пазітывізму", аб гэтай палітычна-сацыялагічна-літаратурнай з'яве ў гісторыі Польшчы II пал. XIX ст. і пач. XX ст., для беларускай часткі Падляшша існуе ён, галоўным чынам, як перыяд развіцця школьніцтва і арганізацыі грамадскага і царкоўнага жыцця.

Пасля "вызвалення" сялян у 1861 г. у сферы эканамічнага быту вёскі таксама наступілі відавочныя змены. Можа не так было гэта прыкметнае ў "сатэлітных" гарадскіх вёсках, якія і раней былі вольнымі ад прыгону. Узрост заможнасці самастойных ужо сялян у апошніх вёсках выразна адчулі гарады, галоўным чынам купецкія і рамесніцкія слаі іх насельніцтва.

Горад Кляшчэлі, распалажаны ў палавіне дарогі паміж Беластокам і Бярэсцем, меў вельмі добрыя геаграфічныя ўмовы свайго развіцця. У 1857 г. Кляшчэлі налічвалі каля 1000 жыхароў у 220 дамах. Як бачым, горад не мог усё ж дасягнуць стану насельніцтва з I паловы XVII ст. У 1860 г. сярод жыхароў было каля 90% хрысціян /у тым ліку 72% праваслаўных і 17% католікаў/. Апошнія 10% насельніцтва было яўрэйскай нацыянальнасці.

Асновай эканамічнага быту мяшчан было земляробства ды рамесніцтва. Прыбыткі з палёў /дарэчы малаўраджайных - пясчаных/ дасканала дапаўняла агароднінцтва і садаводства /выразны плён асветнай працы а. Антона Сасноўскага/. У гэтыя гады кляшчэлеўцы трымалі да дзвюх тысяч галоў рознай жывёлы.

Сярод рамеснікаў, найбольш было ганчароў /каля 50 чалавек/, шаўцоў /27/, сталяроў /18/, пекараў /17/. Апрача таго насельніцтву служыла 10 краўцоў, 10 кілбаснікаў. На Нурцы працаваў вадзяны млын і сукнавальня. Рамесніцкай прадукцыяй, апрача жыхароў Кляшчэль, карысталася звыш 1500 жыхароў навакольных вёсак. Хаця і яны, апрача земляробства, таксама займаліся рамяством /у Дабрывадзе - бандарствам, у Кузаве - вырабам лыжак і інш./.

Жыхары Кляшчэль былі заўзятымі паляўнічымі. На "звера" хадзілі ў кожную вольную хвіліну. Існавала апінія, што кляшчэлеўцы - лепшыя стралкі, таму ў войску іх кіравалі ў адпаведныя атрады.

Адміністрацыя Кляшчэль была падзелена паміж думаю, ратушшу і земскім судом. Як сцвярджае П. Баброўскі /"Материалы для географии и статистики России. Гродненская губерния. СПБ. 1863 т. II/ гэта, пэўным чынам ускладняла развіццё горада.

## ГОРАД КЛЯШЧЭЛІ

Гады 1863-1864 /Студзенскае паўстанне/ прыносяць пэўнае парушэнне ладу жыцця кляшчэлеўцаў. У Кляшчэлях, як і ў іншых суседніх гарадах, знаходзіцца атрад войска /у 1861 г. тут было ўсяго 15 салдат/. Насельніцтва Кляшчэль у сваёй большасці не падтрымала паўстанцаў. У народнай памяці заставалася яшчэ памяць пра інтрыгі роду Цяшкоўскіх. Людзі адчувалі таксама, што ўзброенае дзеянне, якое вядзе за сабою праліў крыві, не дасць і не можа даць станоўчых вынікаў, а толькі давядзе да бяды.

Пасля ўціхамірэння паўстання, у 1865 г. у Кляшчэлях узводзіцца мураваная капліца св. Аляксандра Неўскага. У наступным годзе, паводле распараджэння губернскіх улад закрываецца тутэйшы рымска-каталіцкі касцёл. Год пазней касцёл разбіраюць. Пабудова мураванай царквы пачалася ў 1872 г., пры настаяцелю а. Іларыёне Будзіловічу. Яе ўрачыстае пасвячэнне, у гонар Успення Найсвяцейшай Багародзіцы прайшло 22 кастрычніка 1877 г., калі настаяцелем быў а. Іосіф Тарановіч. Новаўзведзеная царква стала цэнтрам прыхадскога жыцця. Былая прыхадская царква св. Мікалая разам з царквою св. Юрыя сталі яе філіяльнымі храмамі.

Паводле "Кліравай Ведамасці" Успенскай царквы ў 1884 г. да яе прыхода належала 2556 вернікаў, пражываючых у г. Кляшчэлі / 1033 чалавек/ ды вёсках: Дабрывада /396/, Кузава /206/ - тут з 1828 г. знаходзілася філіяльная царква Палажэння Рызы Багародзіцы, Рэпчыцы /42/, Чаромха /515/, Поздыкі /34/, Заборцы /26/ ды Сухавольцы /304/. Дашы, якія ад заснавання прыналежалі кляшчэлеўскаму прыходу, у 70-х гадах былі прыпісаны да царквы ў Коснай. Пад канец XIX ст. да прыхода ў Кляшчэлях далучылі Залешаны.

Кляшчэлі як стары асветны асяродак і ў II пал. XIX ст. не страцілі свайго значэння. У 90-х гадах, у двух народных школах /дзяржаўных/ - хлапечай і дзявочай - вучылася 157 дзяцей /90 хлопцаў і 67 дзяўчат/. У пяці царкоўна-прыхадскіх вясковых школах навучалася 116 дзяцей. Як бачым, жыхары горада рупіліся пра асвету сваіх дзяцей - амаль усе дзеці ў школьным узросце прымалі ўдзел у занятках.

У 1905 г. прыход Кляшчэлі налічвае 3120 вернікаў. У той час Успенская царква ўзбагачваецца многімі ахвяраваннямі. У ліпені 1907 г. прыход наведвае гродзенскі ўладыка Міхаіл. Вялікае яго зацікаўленне выклікаюць старажытныя храмы св. Мікалая і св. Юрыя. Уладыка звяртаецца да настаяцеля а. Аляксандра Салаўевіча з просьбай, каб ён зрабіў здымкі храмаў і перадаў іх Археаграфічнаму музею ў Гродне.

Розныя планы і намеры жыхароў Кляшчэль нечакана абарвала ваенная вестка: "Немцы будуць здзеквацца, забіваць!!!" І людзі, хто ў страху, хто пад прымусам забіралі свой дробны нажытак і падаваліся на ўсход, у невядомае... Год 1915 стаў жудасным момантам у нашай гісторыі.

**Р.С. і М.С.**

# ВЕЛІКАПОСНЫЯ РОЗДУМЫ АЙЦА КАНСТАНЦІНА

У 3-ю нядзелю Вялікага Посту Царква экспануе і прадстаўляе духоўнаму зроку вернікаў Крыж Хрыстовы. У палове сумеснага, поснага подзвігу, на сярэдзіна храмаў выносіцца для пакланення і духоўнага падбадрэння упрыгожаны Св. Крыж. Такім чынам, мацней чым калі-небудзь, адкрываецца не проста знак або форма але ўвесь глыбокі змест Крыжа.

У сімвале веры гучаць словы: "Веру... у Ісуса Хрыста, Сына Божага... распятага за нас пры Понцкім Пілаце". У гэтых словах - уся сутнасць хрысціянства. Апостал Павел пісаў: "Мне ж няхай не здарыцца хваліцца, хіба толькі Крыжам Госпада нашага Ісуса Хрыста, якім для мяне свет укрыжаваны і я - для свету". /Гал. 6, 14/. Моц Крыжа, які быў "глупствам для паганаў" але натхненнем для тых, хто паверыў, спадарожнічала першым хрысціянам. Знак ганьбы ператвараўся ў знак перамогі, у ахвярны алтар, на якім была прынесена ахвяра выкуплення. Прылада смяротнай кары абвясціла свету Божую любоў і дараванне грахоў. Вестка пра гэтае з незразумелай сілай пашыралася і прыцягвала паслядоўнікаў. У адказ на катаванні, здзек і праследаванне, сярод чаду паленых і раздзіраных звярамі на арэнах целаў, гучалі словы пакутнікаў: "Вызнаю Хрыста ўкрыжаванага".

Невыпадкова некалькі разоў у год Царква экспануе Крыж, ставячы яго перад абліччам вернікаў. Гэтым самым заклікаецца вернікаў глянуць унутр сябе, адказаць на пытанне: чым для яго асабіста з'яўляецца Св. Крыж, ці прынамсі ў нейкай ступені Ён ператварыў жыццё? Несумненна, ён павінен стацца праваднікам, акрэсліць ідэалы і стаўленне да жыцця. Для шмат каго крыж сапраўды стаўся святлом і падмацаваннем у штодзённых клопатах і пакутах. Пасля Вялікай Пятніцы наступіў Вялікдзень, пасля ўкрыжавання - уваскрэсенне. Гэтак і крыж з'яўляецца знакам перамогі над злом у нас саміх і ў акружаючым нас асяроддзі, знакам надзеі на канчатковую перамогу дабра і праўды.

Крыж Хрыстовы кліча нас стаць у шэрагі яго вучняў. Чалавецтва падзелена цяпер не меней як тады, калі на Галгофе застукаў молат. Як некалі, так і цяпер, адны верна стаяць ля Крыжа. Іншыя, быццам рымскія жаўнеры насміхаюцца і здзекваюцца над ім. Яшчэ зусім нядаўна былі такія, што зрывалі крыжыкі з дзіцячых шыяў, што ненавідзелі і змагаліся з Ім. Засталіся аднак тыя, для якіх гэта звычайна знак, як знак Задыяка на грудзях падлеткаў; яны абыякава ставяцца і да Крыжа, не ўглыбляючыся ні ў ягоны сэнс, ні ў змест.

Крыж увайшоў таксама ў гутарковы ўжытак як ідэя, як панцще цярплівага нясення ўсіх цяжараў жыцця. Наш індывідуальны лёс з пакутамі, няўдачамі і нястачамі, гэта той асабісты крыж, які мы пакліканы пакорліва несці. Самаахвярнасць і пакора для няверуючых не мае сэнсу, вернікі абавязаны аднак браць прыклад з Хрыста не толькі ў ламанні хлеба, але і ў горкай чашы пакутаў. Хрыстос заклікае: "Калі хто хоча ісці за мною, хай зрачэцца сябе, возьме крыж свой і ідзе за мною... бо якая ж карысць чалавеку ўвесь свет прыдбае, але душу сваю страціць". Зрачыся сябе значыць адмовіцца ад самалюбства і выгодніцтва; шчасце і гора прымаць проста як Божую волю, штодзённыя перамогі і бедства насычаць малітвою "Хай будзе воля Твая".

Крыж надалей з'яўляецца эмблемай найболей высакародных дзеянняў і ідэй. Ён увенчвае мужнасць, патрыятызм і іншыя заслугі. Міжнародны Чырвоны Крыж стаўся знакам сусветнай, дабрачыннай арганізацыі, сімвалам бескарыслівай дапамогі бліжнім. Ён таксама з'яўляецца эмблемай сусветнага, экуменічнага руху. Пад знакам крыжа ў лодцы плыве да еднасці ў веры некалькі сот хрысціянскіх цэркваў. Іх раздзяляе другараднае, але Крыж Хрыстовы - аб'ядноўвае.

Усе мы, незалежна ад таго як глыбока ўспрымаем сімвал нашай прыналежнасці да хрысціянства - жывем у цені і атмасферы Крыжа. Ад хрышчэння крыжык павесілі нам на шыі, праз блаславенства рукою маткі на падушцы дзіцяці, праз крыжы на купалах храмаў і пры дарогах ажно па надмагільны крыж - наша жыццё праходзіць у яго прысутнасці. Ён таксама, паводле Св. Пісання закончыць наша зямное паломніцтва і ўсю драму гісторыі, калі пакажацца на нябёсах "знак Сына Чалавечага" /Мац. 24, 27/.

У крыжапаклонную нядзелю Царква яшчэ раз раскрывае перад нашымі вачыма наш уласны сцяг. Можа мы ніколі ад яго не адракліся, аднак прынамсі крыху прызабыліся. Зараз найлепшы час, каб прыгадаць чаму служыць і якімі быць...

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**

БАС мае новага прэзідэнта!

# САБРАЎСЯ КВОРУМ

27 лютага гэтага года Беларускае аб'яднанне студэнтаў запісала новую староначку свае гісторыі - прайшоў пяты, а некаторыя кажуць, што і сёмы, з'езд гэтай арганізацыі.

Да правядзення з'езда студэнты рыхтаваліся ўжо са снежня мінулага года. На працягу апошніх двух месяцаў яны двойчы прабавалі сабраць кворум - пашчаслівілася толькі за трэцім разам. Хаця і не сабралася шмат студэнтаў /БАС ніколі не быў масавай арганізацыяй/, то былі сярод іх энтузіясты, якія выдатна ажыўлялі атмасферу з'езда. Пра паспяховасць, кажуць, вырашае якасць, а не колькасць. Былі на з'ездзе моманты, у якіх аж кіпела ад бурных дыскусій, а часам і сварак.

Справаздача ўступаючага прэзідэнта - Барбары Пякарскай - прыдала ўсім веру ў свае магчымасці і сілы. Аказалася, што за мінулы год было зроблена не так мала - зразумела, не ўсё, што запланавалася год таму. Найбольш задавальнення ў маім адчуванні прынеслі студэнтам "Басовішча", курс беларускай мовы і беларускія чытанні /лекцыі па гісторыі беларускай літаратуры, арганізаваныя супольна з Літаб'яднаннем "Белавежа"/.

У атмасферы гарачай дыскусіі выпрацоўвалася праграма дзейнасці на наступны год. Студэнты згадзіліся, што свае сілы трэба засяродзіць на арганізацыі тых мерапрыемстваў, якія маюць ужо сякую-такую матэрыяльную аснову, а прысутны на з'ездзе прадстаўнік бельскай фірмы "Амега" паабяцаў перадаць дваццаць мільёнаў злотых у падтрымку "Басовішча". Адносна тых мерапрыемстваў, якія прынеслі ў мінулым годзе страту - студэнты маюць задумацца над такою іх арганізацыяй, каб ад страт гэтых пазбавіцца.

У атмасферы некаторага напружання праходзіў выбар новых улад Аб'яднання. Спачатку не было ахвотных кандыдаваць у прэзідэнты, дык спярша выбралі Галоўную раду. Старэйшыя студэнты ўспамінаюць, што быў калісьці і такі з'езд, на якім выбар прэзідэнта цягнуўся некалькі гадзін. Пасля ўкамплектавання Галоўнай рады з'езд вярнуўся да выбару прэзідэнта. Кандыдаваць на гэты пост згадзіўся Юрка Сульжык, студэнт гістарычнага факультэта Варшаўскага універсітэта, якога з'езд і выбраў. Юрка Сульжык сказаў, што выконваючы сваю функцыю, будзе звяртаць большую, чым гэта рабілася раней, увагу на тыпова студэнцкія справы і дзейнасць.

Усяго табе добрага, Юрка!

**АНЯ АДАМІК**




На спартыўнай ніве

## ГМІННЫ ТУРНІР

Гміннае праўленне Школьнага спартыўнага саюза і Гмінны асяродак культуры ў Дубічах-Царкоўных арганізавалі гмінны турнір, які адбыўся 26 лютага бягучага года ў ГОКу. Удзельнічалі ў ім вучні з Дубічаў-Царкоўных, Грабаўца і Старога Корніна. У суме каля 50 чалавек.

Турнір складаўся з двух частак: ведаў па біялогіі, геаграфіі, гісторыі і спартыўных гульняў, у якіх трэба было выказацца не абы-якой спрытнасцю. Некаторыя элементы і прыклады зручных гульняў былі ўзяты са спартыўных тэлеперадач Беларускага тэлебачання з Мінска (Рэспубліка Беларусь), у тым ліку, між іншым, эстафета цягнікоў.

Першае месца ў спаборніцтвах заваявалі вучні з Падставовай школы ў Дубічах-Царкоўных, другое — з Грабаўца і трэцяе — са Старога Корніна. Ва ўзнагароду яны атрымалі пераходны кубак (ПШ у Дубічах), крышталёвыя вазы і дыпломы.

Спартыўнае мерапрыемства пад назвай „Рамбіт'93" адкрыў войт Дубіцкай гміны Анатоль Паўлоўскі. Ён і ўручыў крышталёвыя кубкі пасля заканчэння турніру. Варта дадаць, што згаданыя ўзнагароды купіў войт.

Гмінны турнір школьнікаў вялі: Уладзімір Місяюк, Уладзімір Коўшук, Славамір Кулік, Вінцэнт Мартынюк і Уладзімір Петручук. На мерапрыемства быў запрошаны супрацоўнік „Нівы".

**ЯНКА ДАРОЖНЫ**

## КОНКУРС ДЭКЛАМАТАРАЎ

Дваццаць шостага лютага ў Беларускім ліцэі ў Гайнаўцы прайшоў конкурс дэкламатараў беларускай паэзіі і прозы. Удзельнічалі ў ім вучні другіх, трэціх і чацвертых класаў. Усяго ўдзельнікаў, а дакладней кажучы, удзельніц (хлопцы чамусьці не бралі ўдзелу) было дзевятнаццаць. На працягу паўтары гадзіны гучэлі ў адной з аўдыторый ліцэя вершы і проза па-беларуску. Безумоўна, узровень выканання быў розны: удзельніцы-чацвертакласніцы былі па-за канкурэнцыяй, — але ж і дзяўчыны з другіх класаў, як кажуць, у гразь не ляснуліся.

Выконваліся творы „белавежцаў" ды класікаў беларускай літаратуры. Рэпертуар падбіралі самі вучаніцы, не без дапамогі, але і без націску настаўнікаў. Такая самастойнасць трошкі адбілася на выкананні некаторых твораў: былі яны, можа, зацяжкія для дэкламацыі ў другім класе. Адчувалася, што дзяўчынам творы падабаюцца, а вось справіцца з імі пакуль што цяжкавата. Але ж, спадзяюся, на ваяводскім конкурсе гайнаўскія дзяўчаты прадэманструюць свае здольнасці поўнасцю і дакажуць, што вучні Гайнаўскага беларускага не абораю хлеб крояць.

Яшчэ трошкі заўваг наконт рэпертуару. Няблага было б яго пашыраць (магчымасці для гэтага ёсць). Ліцэальная бібліятэка ў гэтым плане не самая бедная, а нядаўна атрымаў ліцэй багаты падарунак з Менска — кнігі, якія прывезлі прадстаўнікі Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра. Сярод кніжак, дзе большасць складае зноў жа класіка, нямала і сучасных паэтаў і празаікаў, а таксама кнігі перакладаў. Праўда і тут хочацца заўважыць, што, можа, лепей было прывезці больш кніжак з выдатнай серыі „Скарбы сусветнай літаратуры" і менш „Замежнага дэтэктыву" (якія, дарэчы, даўно мёртвым грузам ляжыць у менскіх кнігарнях).

І ў канцы хочацца параіць нашым дэкламатарам выкарыстоўваць і пераклады. Паказаць, што такія сусветна вядомыя аўтары, як Байран, Шылер, По, Бірс і іншыя выдатна гучаць па-беларуску. І пажадаць, вядома ж, далейшых поспехаў у сапраўднай беларускай свядомасці, якая б праяўлялася не толькі на конкурсах, але і ў жыцці.

**АЛЕСЬ КУДРАЎЦАЎ**

## ЯШЧЭ АБ БЕЛАВЕЖСКІХ БАПТЫСТАХ

Шаноўная рэдакцыя тыднёвіка „Ніва"!

Хачу падзякаваць за памяшчэнне на вашых старонках маёй заўвагі, накіраванай у адрас **зместу нататкі „У белавежскіх баптыстаў", а не асобы карэспандэнта.** Мае адносіны да асобы сп. Пятра Байко і яго творчасці заўсёды былі і ёсць пазітыўныя. Мой допіс у рэдакцыю мог мець вострыя адценак і гэтым самым стацца прычынай расчаравання і жалю ў спрыяльнага нам аўтара, і таму прашу лічыць, што сказ „аўтар учыніў шмат заслугоўваючых кары памылак" выражае мой пратэст у адносінах да паўсталых недакладнасцяў, што не абазначае, што я дашукоўваўся браку спрыяльнасці ці зламыснасці аўтара. Адначасова хачу ўдакладніць змест нататкі „У белавежскіх баптыстаў".

Упамянутыя Савелій Басакін, Цімафей Кошкін і Іларыён Сыравой скантакталіся былі **з ужо існуючым зборам** у Бучаўлянцы.

20 ліпеня 1924 года ў Бучаўлянцы адбылося хрышчэнне 16 чалавек, а сярод прыняўшых Хрэст былі жыхары Белавежы: Ігнат Вінтэр, Іларыён Сыравой, Савелій Бакунін, Цімафей Кошкін, Сцяпан Хрушчоў, Кузьма Грамыка, Савелій Басакін і іншыя.

Адным са спрыяльных паўстанню збору ў Белавежы фактаў быў кантакт белавежскіх **бежанцаў** з баптыстамі (іначай званымі **штундамі**, ад гадзіннага біблейска-малітоўнага студыюма, **евангелістамі** — ад асаблівых адносін вернікаў да Свяшчэннага Пісання) у глыбіне Расіі ў час I сусветнай вайны і Кастрычніцкай рэвалюцыі. Бежанцы, пасля вяртання на бацькаўшчыну, распавядалі ўражанні са спатканняў са штундамі, іншыя, хто застаўся ў Расіі, пісалі лісты, як, напрыклад, Ганна Саўчук, свайму бацьку, калі потым стаўся членам Касцёла Баптыстаў.

Касцёл Баптыстаў звышнацыянальны, а ўсялякія праявы крайніх нацыяналістычных пастаў лічыць сігналам да ўзмацнення выхаваўчай працы ў духу любові. У Белавежскім зборы былі рускія, беларусы, палякі, немцы.

20 чэрвеня 1926 года прынялі хрэст веры Мікола Раманюк і Настасія Краснапольская, і паўстаў збор у Белавежы.

Многія гады збор баптыстаў у Белавежы хадайнічаў у палітычных і касцельных уладаў у справе пабудовы кватэры для прапаведніка і пакояў для наведваючых нас гасцей. Асабліва статус надгранічнай мясцовасці і малая колькасць вернікаў былі прычынай браку зразумення ўпамянутых уладаў. І гэта **збор**, дзякуючы спрыянню прыхільных асоб сабраў у 1988 годзе даволі значныя (як на той час) фінансавыя сродкі. Аднак праблемы юрыдычнага характару, выплываючы з перспектывічнага плана загаспадарання мясцовасці і страшэнная інфляцыя давялі да таго, што развеялася надзея распачаць пабудову, якая была б уласнасцю збору.

Разглядаючы жыццё збору і яго сённяшняе становішча, павінны мы хоць коратка ўпамянуць дзейнасць прэсвітэра **Рамана Дроня**. Нарадзіўся ён у 1907 годзе. У маладосці страціў бацьку. Цяжка працуючы, атрымаў дыплом майстра цесляра-сталяра. Быў сумленным, прызнаным спецыялістам. У 1926 годзе далучыўся да Збору Баптыстаў у Белавежы, а праз год прыняў хрышчэнне. Нягледзячы на сямейныя абавязкі, гадамі грамадска займаўся навучаннем у зборы дзяцей, а з 1948 да 1984 года быў старэйшыней збору. У 1959 годзе памерла яго жонка, адданая яго памочніца. Нягледзячы на боль страты, далей служыў збору. У 1974 годзе, па прапанове збору быў ён назначаны прэсвітэрам, у доказ прызнання для яго адданай службы Богу і людзям. У 1983 г., з прэсвітэрам Міхаілам Станкевічам (тадышнім старшынёй Галоўнай рады Касцёла Баптыстаў у Польшчы) быў галоўным ініцыятарам запрашэння на місіянерскадушпастырскую працу ў Белавежы прапаведніка Мечыслава Пятроўскага. Аддаў бясплатна да распараджэння прапаведніку да часу атрымання лепшага памяшкання невялікую кватэру па вуліцы Трапінка 62. Прэсвітэр Раман Дронь мае павагу ў зборы і сярод жыхароў Белавежы.

Гэта праўда, што я прымушаны будаваць памяшканне на свае сродкі, а гэта сёння справа нялёгкая. За сваю душпастырскую працу магу, як да гэтай пары, утрымоўвацца. Магчымасць працы пры маляванні сакральных аб'ектаў нашага касцёла трактую як частку майго прызвання. Няпраўда, што трактую гэта **як нагоду заробку і атрымаў 30 мільёнаў злотых за малярскую працу.** Мае даходы апіраюцца на **дабравольных ахвяраваннях вернікаў** і старшынскай дзейнасці, якая згодная з маім прызваннем.

У будаўнічых працах не могуць мне дапамагаць людзі са збору, па прычыне старэчай нямогласці, і не наймаю спецыялістаў (з выключэннем 2 чалавек) па прычыне маіх сціплых фінансавых магчымасцяў і маёй знаёмасці будаўнічых спраў.

Жадаю ўсім працаўнікам тыднёвіка „Ніва" шмат радасці з выпаўнення свайго прызвання.

**Кс. МЕЧЫСЛАЎ ПЯТРОЎСКІ**

# КАЛЯРОВЫ СВЕТ СПАДАРЫНІ ТАМАРЫ

9 лютага ў бельскай ратушы адкрылася выстаўка карцінаў Тамары Тарасевіч, мастачкі з Белавежы. Выстаўка будзе трываць тры месяцы, а значыць, тыя, што даведаюцца пра яе ўпершыню з гэтага тэксту, паспеюць яшчэ яе пабачыць. Зрабіць гэта „Ніва" ўсіх сардэчна намаўляе.

Справа з Тамарай Тарасевіч і яе мастацтвам надта нетыповая, а таму — цікавая. Спадарыня Тарама нарадзілася ў Гайнаўцы, закончыла настаўніцкае медыцынскае вучылішча ў Варшаве, а потым факультэт медсясцёр у Медыцынскай акадэміі ў Вроцлаве з дыпломам у 1988 годзе. Выйшла замуж за лекара з Белавежы і тамака жыве. Маляваць пачала пару гадамі назад, як кажуць, ні знай, ні відай адкуль. Сама прызнаецца, што ў школе на ўроках малявання мела добрыя поспехі, ну але маляваць алеем на палатне — гэта ўжо зусім іншая справа. Праўду сказаўшы, спачатку нават не ведала, як загрунтаваць палатно пад фарбу. Навучыў яе гэтага белавежскі мастак Мікалай Валкавыцкі, прафесіянал. Ён першы ўгледзеў у малюнках спадарыні Тамары „Божую іскру" і горача намаўляў заняцца жывапісам, каб не губляць падараванага прыродай таленту. Яна паслухалася, і сёння з'яўляецца аўтаркай ужо звыш 100 карцінаў.

Дамінуючая тэма карцінаў спадарыні Тамары — прырода. Тая, што ў Белавежы і наваколлі. Стары пушчанскі неруш і дзікаваты луг над балацявістай рачулкай, панарамная карціна і зусім дробны раслінны матыў, дзікая пушчанская кветка і зусім „асвоеная", у вазоне. Спадарыня Тамара любіць колеры — восені, лета, зімы. І пейзажы. Малюе ў рэалістычнай манеры, што не значыць, у фатаграфічнай. Маем тут на ўвазе супрацьлегласць таго метаду, які ў дачыненні да пейзажу скарыстоўвае яе (амаль) цёзка па прозвішчы, мастак Лявон з Валілаў. У яго пейзаж балансуе на мяжы фігуратыўнага і абстрактнага, з перахілам у той другі. У спадарыні Тамары ён ніколі не адрываецца ад рэалістычнай фігуратыўнасці, нават у тых працах — на нашу думку, яе найлепшых — дзе мастачка перастварае фізічную рэальнасць у нешта звыш, так і хочацца сказаць, у сімвалічнае. Сімволіка ейных карцінаў мае ў сабе нешта ад казачнай ілюстратыўнасці і кранальнай наіўнасці. Карціна ўздзейнічае на гледача чыста жывапіснымі сродкамі, але аднача сова адклікаецца і да ягонай „літаратурнай" свядомасці, да асноўных прынцыпаў чалавечага разумення дабрага і злога, да таго, што згоднае з натурай і што супраць яе.



На выстаўцы ў Бельску паказваецца каля 40 карцінаў Тамары Тарасевіч. Амаль палова таго, што яна стварыла. Магчыма, прэзентацыі творчай дарогі і манеры мастачкі выйшла б на карысць, калі б падборка карцінаў на выстаўку была больш строгая. Некаторыя з працаў успрымаюцца як паўторы іншых ці як эскізы да болей спелых і прадуманых кампазіцый. Але, тут, зразумела, мы закранаем праблему мастацтва ў нашым старонні і кампетэнтнасці прамотараў. Мастак наогул не найлепшы суддзя ўласным здзяйсненням. Яму ўсе ягоныя працы здаюцца вартаснымі і, агульна кажучы, важнымі. Ён не ў змозе глянуць на іх халодным вокам, хаця б так, як робіць тое глядач-дылетант. Не кажучы ўжо пра мастацтваведа. На нашу думку, спадарыня Тамара ўсё яшчэ чакае свайго мецэната і прамотара.

Важна адзначыць, што Тамара Тарасевіч мела ўжо 17(!) персанальных выставак у краіне і на Беларусі (у Горадні, Віцебску і Менску). У гэтым сэнсе, прамоцыя яе мастацтва ўжо пачалася. На бельскую выстаўку мастачка падрыхтавала скромны, але акуратна і дбайна выдадзены буклет (спонсарам яго была вядомая нашаму чытачу фірма „Амега" з Бельска), у якім падаецца жменька біяграфічных інфармацый пра яе, кароткі крытычны нарыс (дужа павярхоўны, на жаль) і тры высокай якасці каляровыя рэпрадукцыі ейных карцінаў. Буклет у трох мовах: польскай, англійскай і беларускай. Робіць добрае ўражанне, як, дарэчы, і сама выстаўка ў ратушы. „Ніва" там пабывала і ўсім рэкамендуе зрабіць тое самае. А таленту спадарыні Тамары — зычыць поспехаў і добрых людзей на шляху.

**ЯН МАКСІМЮК**

*На здымках: мастачка і рэпрадукцыя аднае карціны.* **Фота Сяргея Тарасевіча.**

*МІРА ЛУКША*

# АНЁЛ АХОЎНІК

Сеў сабе адзін анёл на драўляным мастку цераз прыток ракі Нараў, звесіў свае светлыя ногі над вадой. Заглядзеўся сваімі светлымі вачыма на бліскучую, чыстую яшчэ ваду, па якой паверхні скакалі нейкія даўгалыгія казюркі, бегалі жвавыя прачкі. Прырода, значыць, жыве! Прыпякала веснавое сонейка, паўяваў свежы ветрык. Раптам нешта ціха зашумела, і на парэнчы мастка прысеў невялікі анёлак, словам, падлетак.

- Як там вашыя справы? - звярнуўся маладзён да анёла.

Нічога анёл не сказаў, потым, пасля хвіліны маўчання, уздыхнуў:

- Эх. Было б усё добра, але мой падапечны зусім мяне не слухае. Зматаешся зусім, пільнуючы такога. Але ж сам Гаспод даручыў мне такую місію, - апекавацца ім. Відна, Божы ён чалавек.

- А што? Можа, кепска сябе паводзіць, запаведзі парушае? Цыгарэты смаліць, гарэлку п'е, крыўдзіць жанчын, сквапны, можа, да чужога?..

- Ды не. Курыць кінуў для здароўя, гарэлку п'е час ад часу, і то толькі сваю. Жанчыны на яго не наракаюць. Чужога не бярэ, узяў толькі крыху з таго, што супольнае, бо калісьці дзяржава дала яму адукацыю. Але малюе, бо мастак ён, чорт-цьфу-ведае-што: нейкія рыскі, кропкі, рагізулькі, ну, словам, балваны!..

- Ай-я-яй! Айцец жа сказаў: не ўчыні сабе куміра, балвана, значыць, і не пакланяйся яму!..

- Народ гэтых яго малюнкаў не разумее, але на выставы ходзіць і купляе карціны. Уводзіць мой мастак народ у дурасць, у блуд! Кажу я яму: "Намалюй ты хоць і мяне, анёла, вось такім, як прад табою ў сне я явіўся!", а ён кажа: "Ды цябе ж няма!" Ён не верыць у мяне?! Як жа мне з гэтым быць?!

- То чаму ж Айцец даў цябе гэтаму недаверку на апекуна? Рыскі маляваць кожны можа, нават палкай на пяску?..

- Але! Але не па-беларуску!

# „БЕЛАВЕЖА — ПЕРЫЯД ДЗЯЦІНСТВА СКОНЧАНЫ

Беларускае літаратурнае аб'яднанне „Белавежа" мае ўжо сваю 35-гадовую гісторыю, але як сказаў падчас справаздачнага сходу гэтай арганізацыі Сакрат Яновіч — дарослае жыццё вядзе яно толькі няпоўныя тры гады. Раней „Белавежа" існавала як літаратурная група ў рамках культурна-асветніцкай секцыі БГКТ. З верасня 1990 г. зарэгістравана яна як самастойная арганізацыя.

28 лютага г.г. у Філіяле Варшаўскага універсітэта ў Беластоку адбыўся справаздачны сход літаб'яднання „Белавежа", дзе былі выбраны новыя ўлады і абмеркаваныя планы дзейнасці на будучыню. Адчыняючы сход, старшыня папярэдняй управы „Белавежы" перадаў прывітанні ад Міраслава Целушэцкага, аднаго з гэтых бізнесменаў, якім гаспадарчая дзейнасць не перашкаджае цікавіцца справамі культуры. На жаль, апрача кіраўніцтва Фірмы „Амега" інтэлектуальныя патрэбы беларускіх капіталістаў абмяжоўваюцца да чытання беластоцкіх вячорак-кур'ераў.

Выбраны аднагалосна старшынёй сходу Сакрат Яновіч запэўніў не толькі спраўнае кіраванне яго працай, але таксама шмат сатырычных момантаў у сваім выкананні, што дазволіла пазбегчыся нуды, якая найчасцей дамінуе падчас справаздачных канферэнцыяў.

Галоўны пункт праграмы — выступленне старшыні ўправы Яна Чыквіна — добра пасавала да стылю кіравання сходам Сакратам Яновічам. Было яно канкрэтнае і не трывала больш чым 30 хвілін.

— 11 лютага 1989 г., — гаварыў старшыня, — была выбраная 5-асабовая ўправа літаб'яднання ў складзе: Ян Чыквін, Віктар Швед, Ян Максімюк, Юрка Баена і Ян Жамойцін. У канцы 1990 г. адмовіўся ад членства ва ўправе Ю. Баена, а кантакт з Я. Жамойціным быў найчасцей тэлефонны. У сапраўднасці кіраванне „Белавежай" абмяжоўвалася да працы трох чалавек. На працягу апошніх трох гадоў было выдадзена 25 кніжак аўтарства белавежцаў (у гэтым ліку - 9 у бібліятэцы самастойнай "Белавежы", пад рэдакцыяй Я. Чыквіна), а ад пачатку існавання літаб'яднання — больш за сто. У гэтай галіне беларуская меншасць у Польшчы рашуча апярэдзіла ўсе іншыя. Непасрэдная датацыя Міністэрства культуры і мастацтва на рахунак „Белавежы" дае сёння магчымасць рацыянальна выкарыстоўваць усе сродкі.

У лютым 1989 г. планавалася шмат чаго больш, чым удалося зрабіць, — гаварыў Ян Чыквін. Перш за ўсё не створана бібліятэка і архіў літаб'яднання, не выпрацавалася метадаў рэкламы і продажу кніжак „белавежцаў". Не толькі недахоп грошай перашкаджаў рэалізацыі пастаўленых тады мэтаў, але перш за ўсё заважыла малая актыўнасць саміх пісьменнікаў.

Хаця пастаянна выходзіла літаратурная старонка ў „Ніве", былі гэта, аднак, творы тых самых аўтараў. Большасць пісьменнікаў перажывае нейкі крызіс, не відаць іх новых вершаў і апавяданняў.

Падчас дыскусіі Сакрат Яновіч выказаў сваю занепакоенасць тым, што можа памерці як апошні беларускі празаік. Непісьменнасць моладзі, — прадужаў Сакрат, — вынікае са стану нашага этнасу. Нават у нашых сем'ях цяжка ўжо знайсці кагосьці, з кім можна свабодна гаварыць па-беларуску. Мікалай Гайдук выказаў меркаванне, што можа „белавежцы" замала спатыкаюцца з моладдзю ліцэяў. Вучні, дырэктары і настаўнікі вельмі ахвотна вітаюць такіх гасцей на ўроках беларускай мовы.

Янка Жамойцін прапанаваў паспрабаваць шукаць кантакт са студэнтамі беларускай філалогіі, хаця штораз больш сярод гэтых студэнтаў небеларусаў.

Ян Максімюк паясніў, што ў Варшаве ўжо здаўна беларускае жыццё арганізавалі людзі з фізічных, геаграфічных, гістарычных факультэтаў. Амаль не відаць было ў гэтым асяроддзі студэнтаў з беларускай філалогіі.

— Вельмі цяжка весці нейкую працу ў ліцэях, — гаварыў Георгій Валкавыцкі, — таму што там няма беларускай адукацыі. Да беларускасці вучні адносяцца абыякава.

Г. Валкавыцкі запрапанаваў, каб творы „белавежцаў" і артыкулы на тэму літаратуры змяшчаць у кожным нумары „Нівы".

— Сумна робіцца, — сказаў Віктар Швед, — калі падумаецца, што для „белавежцаў" няма маладой змены. Сярод вучняў ліцэяў цяжка знайсці кагосьці, хто стварае падставы да нейкай надзеі.

А мне трохі сумна зрабілася, калі дайшло да выбараў новага кіраўніцтва літаб'яднання „Белавежа". Сярод знаміных паэтаў і празаікаў не было зусім зацікаўленых заняцца крыху арганізацыйнай працай. Паўторны выбар Яна Чыквіна старшынёй управы літаб'яднання „Белавежа" на наступныя тры гады абазначае працяг перыяду, які дае шанцы выдаць усе вартасныя творы „белавежцаў". У склад управы, апрача Сакрата Яновіча, было выбрана двух журналістаў „Нівы" — Міра Лукша і Ян Максімюк. „Белавежай" затым кіраваць будуць літаратары з вялікім дасведчаннем і дасягненнямі і двое „маладых" (калі так можна назваць людзей, якім ужо за трыццаць). Склад управы дае падставы думаць, што наступная кадэнцыя не будзе горшай за папярэднюю.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# ЭКСКУРСІЯ Ў ГІСТОРЫЮ І ЛЕГЕНДУ

У „фіяціку" майго сябры, Сяргея Тарасевіча, ледзь змесціліся ўтрох. Барыс Руско, ураджэнец Падалян, а зараз жыхар Варшавы, усаджваецца ззаду. Я, упіраючыся галавой у бляшаную стольсядаю побач шафёра. На шчасце перад намі кароткая дарога. Пераязджаем хуценька праз Падаляны, якія з'яўляюцца цяпер раёнам Белавежы, і накіроўваемся ў пушчу.

— А ці ведаеце, хлопцы, што па дарозе, па якой рухаемся, — азываецца Барыс Руско, — бегаў з поштай у Пружану Святы Філіпка? Гэта было яшчэ ў царскія часы. Чалавек гэты валодаў незвычайнымі здольнасцямі хуткае хады. Калі нехта, сустракаючы яго дзесьці на шляху, прапанаваў падвезці на фуры, той заўсёды адказваў, што хутчэй яму будзе пехатою. І так сапраўды было! Святым назвалі людзі Філіпка з-за яго вялікай дабраты. Да ўсіх адносіўся надта ветліва. Дзяцей гладзіў ласкава па галоўках, частаваў іх нейкімі ласункамі. Меў светлыя валасы. Ну і гэтыя яго фенаменальныя здольнасці...

Уязджаем ужо ў пушчу. З правага боку дарогі кідаецца ў вочы магутны векавы дуб. У яго абламаная вялікая галіна. Спадар Барыс падказвае мне, што нядаўна нехта падпаліў гэтае дрэва, прыспяшаючы яго смерць. Абураецца на нягодніка, на праяву людской дурноты.

Каб паправіць пануры настрой, гавару я сваім сябрам, што некалькі дзесяткаў метраў далей на ўсход, у тым жа самым квартале, праф. А. Сакалоўскі запланаваў заснаваць запаведнік прыроды, для захавання групы векавых дубоў, найстарэйшым з якіх па 350 гадоў.

— А ведаеце вы, што гэтая частка пушчы, — перарывае спадар Барыс, — у якой цяпер знаходзімся, у царскія часы лічылася таксама запаведнікам? Гаварыў мне пра гэта мой дзед. А якія тут дрэвы раслі! А сколькі было старых дубоў! Іх у большасці высеклі ў 1936 г. Я сам быў сведкам. Мне яшчэ сёння сэрца баліць, калі пра гэта ўспомню...

— Ой, Сяргей, спыніся! – усклікае раптам наш размоўца. — Бачыце гэтую дарожку налева? На ёй пакінем машыну і далей пойдзем пехатою.

Барыс Руско хоча паказаць нам месца, дзе да І сусветнай вайны падалянцы перахоўвалі зімой бульбу. Гэта галоўная мэта нашай экскурсіі.

Ідзем паволі. Снегу на зямлі ледзьледзь. Разглядаемся. Крыху дубоў яшчэ асталося!

— Але гэта ўжо рэшткі, — з сумам канстатуе наш праваднік.

— Ну, хіба мы ўжо дайшлі, — заўважае раптам Сяргей.

— Так, — пацвярджае спадар Руско. — Вось, у гэтых ямах, якіх тут дзесьці са 100, або нават і 150, жыхары Падалян закопвалі бульбу. Кожны меў 4—5 ямаў — гэта залежала ад заможнасці гаспадара. Вось, бачыце, гэта дзве ямы майго дзеда. А тут былі дзве наступныя, толькі што якраз сюдой немцы ў І сусветную вайну пусцілі вузкакалейку і знішчылі іх.

Прыглядаемся з Сяргеем. Сапраўды, тут аж надта выразны след па чыгуначным палатне. Толькі што няма ўжо рэйкаў, а самое палатно выкарыстоўваецца як лясная дарога. З аповеду Б. Руско даведваемся , як падалянцы забяспечвалі закапаную бульбу ад дзікоў і іншай лясной жывёлы. Убівалі яны ў чатырох вуглах кожнай ямы калы і паміж іх укладвалі пластамі, накрыж галіны дрэў. Звярына, хаця і прыходзіла сюды, дабрацца да бульбы ніяк не магла. Апошні раз падалянцы выкарысталі свае схоўшчы на пераломе 1914/1915 гадоў. У жніўні 1915 г. падаліся яны ў бежанства, а калі вярнуліся, пачалі перахоўваць бульбу пры дамах.

— Гэты закавулак пушчы, — паясняе Б. Руско, — па сённяшні дзень называецца „Пограбы", значыць ад ямаў. Міне нейкі час і мабыць ужо ніхто не будзе памятаць, ад чаго менавіта ўзнікла такая назва. Пасля вайны ў гэтых ямах ахвотна бавіліся ў хованкі дзеці.

Выходзім на даўняе чыгуначнае палатно.

— Тут непадалёку, — кажа наш праваднік, — ёсць урочышча, якое называецца „Воўчы багон". Мо падыдзем, пабачым?

— Чаму якраз „воўчы"? — быццам самога сябе пытае спадар Барыс. — А таму, што некалі ў гэтым недаступным месцы выводзіліся ваўкі. Зараз тут намнога сушэй, але і так без адпаведнага абутку не прайсці. А ведаеце вы легенду, звязаную з гэтым урочышчам?

Мы з Сяргеем запярэчваем, хаця мой сябра, потым успомніў сабе, што некалі такі расказ чуў ад свайго бацькі.

— Было гэта яшчэ пры цары, — пачынае Барыс Руско. — У Белавежы, на Стачку, жыў таленавіты гарманіст Юрко. Яго ахвотна наймалі на вяселлі, танцы. Аднойчы запрасілі ў Ківачыну; сёння яна ўжо за мяжой, на беларускім баку. Найграўся наш Юрко даволі і падаўся пехатою дамоў. Калі знайшоўся ва ўрочышчы „Высокая гара", нечакана сустрэў прыгожа апранутых мужчыну і жанчыну. Яны быццам на яго і чакалі. Зразу запрапанавалі яму, каб ім зайграў. Юрко адмаўляўся стомай і позняй парой, але калі незнаёмцы сказалі, што добра яму заплацяць, тады і згадзіўся.

Пан з паняй павялі яго праз лес. Юрко зарыентаваўся, што ідуць у напрамку „Воўчага багна". „Хіба хочуць мяне ўтапіць у балоце", — баязліва падумаў. Але калі прыйшлі ва ўрочышча, гарманіст раптам убачыў сярод дрэў прыгожы панскі двор. Унутры двара было шмат гасцей, таксама шыкоўна апранутых. Сеў Юрко і пачаў іграць, з прыемнасцю пазіраючы на танцуючых. У нейкі момант прыкмеціў, што госці падыходзяць да сцэнаў, дакранаюцца да іх пальцамі, а потым тымі ж пальцамі датыкалі да вачэй.

— Пачакайце, — падумаў сабе Юрко, — у перапынках і я гэтак зраблю.

Як падумаў, так і зрабіў. На сценах было штосьці падобнае на жывіцу. Калі гарманіст пасмараваў ёю вочы, убачыў, што танцуючыя не людзі, а чэрці. Перапякаўся! Ужо і іграння яму не выходзіла. Калі запытаўлі, чаму стаў кепска іграць, адказаў, што ён ужо вельмі змучаны і хоча пайсці дамоў. Усё ж угаварылі яго яшчэ крыху пайграць. Праз нейкі час зноў убачыў замест чэрцяў паноў і паняў. „Хіба я перамучаны, — падумаў ён, — і ў вачах маіх ужо штосьці неверагоднае паказваецца". Але не даяраючы сабе, яшчэ раз падышоў да сцяны і дакрануўся да яе пальцам, а потым да свайго аднаго вока. У той момант падышоў да яго гаспадар балю. Юрко зарыентаваўся, што пасмараваным вокам бачыць чорта, а непасмараваным пана. „Не туды я трапіў, — дайшоў нарэшце да вываду. — Пара адсюль уцякаць!" Папрасіў ён гаспадара, каб той расплаціўся. Гаспадар паклаў перад гарманістам грошы. Юрко працягнуў па іх руку, але калі заплюшчыў непасмараванае вока, убачыў, што гэта не грошы, а нейкія шышкі, лісце. „Не, такіх грошай я не хачу! " — усклікнуў. Гаспадар зарыентаваўся, якім вокам Юрко бачыць абман, схапіў за яе і выдзер вока.

Вярнуўшыся ў Белавежу, Юрко расказаў усю гэтую гісторыю. Ніхто яму, зразумела, не паверыў. „Вяртаўся п'яны, — тлумачылі сабе людзі, — выкалоў недзе ў лесе галінай вока і ўстыдна яму цяпер да гэтага прызнацца". З часам Юрко сам паверыў у тое, што гаварылі людзі.

Калі мы вярталіся з „Воўчага багна", спадар Барыс растлумачыў і асабіста прадэманстраваў нам правілы старой гульні „ў чорта".

Шмат чаго мы з Сяргеем даведаліся ў гэты дзень. Дагаварыліся таксама з Барысам Руско на наступную экскурсію.

**ПЁТР БАЙКО**

## СВЯТКАВАННЕ 25 САКАВІКА Ў БЕЛАСТОКУ

У чацвер 25 сакавіка а гадзіне 18.30 у памяшканні Ваяводскага асяродка анімацыі культуры адбудзецца вечарына ў гонар 75 гадавіны адраджэння Беларусі. Прадбачваецца канцэрт калектыву "Маланка" з Бельска-Падляшскага.



### АДКАЗ ПАНУ ЯЎГЕНУ САЛАГУБУ

У сувязі з грознай заявай пана Яўгена Салагубы („Ніва" н-р 10 ад 7.03.1993 г. — рэд.), прагну сказаць наступнае:

— Перапрашаць два разы пана Салагубу не буду, бо я ў сваім артыкуле верна апісаў усё тое, што было сказана Фёдарам Галёнкам і Міколам Алексеюком на пасяджэнні Прэзідыума ГП БГКТ і гэта ўсе там прысутныя пацвердзяць на судзе, як мае сведкі.

— Не рэалізую „штрафу", якім мяне пакараў пан Салагуба ў размеры пяці мільёнаў злотых у фонд Беларускага музея. Прагну сказаць, што сума, якую я прызначыў у карысць Беларускага музея большая ад той, якую прапануе пан Салагуба. Аднак унясу я яе па наказу свайго сэрца, а не па загаду пана Салагубы.

— У сувязі з тым, што я апублікаваў ацэнку інцыдэнту ў Варшаве на падставе рэляцыі дадзенай Фёдарам Галёнкам і Міколам Алексеюком, для поўнай сатысфакцыі пана Салагубы, прапаную яму скарыстаць з тых магчымасцей, з якіх скарысталі Ф. Галёнка і М. Алексяюк, гэта значыць, прыехаць на пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ і даць сваю інтэрпрэтацыю варшаўскага інцыдэнту і я гэтую інтэрпрэтацыю без якіх-небудзь змен апублікую ў сваім цыкле „Беларускія капіталісты".

— Калі б прыезд на пасяджэнне Прэзідыума з такіх ці іншых прычын пану Салагубу не адпавядаў, прапаную яму даць сваю інтэрпрэтацыю інцыдэнту ў пісьмовай або магнітафоннай форме і я гэтую інтэрпрэтацыю пасля аўтарызацыі панам Салагубам змяшчу ў згаданым цыкле.

— Аказваецца, што згодна з абавязваючым польскім правам, пішучы абвінавачвальны артыкул перад судовым прыгаворам, нельга ўжываць поўнае імя і прозвішча абвінавачанага, а я гэта зрабіў і за гэта пана Салагубу перапрашаю.

Думаю, што такое вырашэнне праблемы будзе поўнасцю адпавядаць добрым звычаям, праўным нормам, маральнаму чалавечаму кодэксу, а што найважнейшае, будзе максімальна служыць выяўленню праўды.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**





### ЧАСТКА XXXIII

## БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

Адной з асноўных тэм, якія вельмі часта пастулуюцца ў размовах аб капіталістычных парадках у Польшчы і Беларусі з'яўляецца тэма несумяшчальнасці багацця, сумленнасці і працавітасці. Многія размоўцы лічаць, што сёння салідныя веды, навука, добрасумленнасць і праца не толькі не вядуць да ўзбагачэння, але наадварот, спіхаюць чалавека на ўзровень убоства. Камбінацыі, жульніцтва, хітрасць, невуцтва, нядобрасумленнасць у разуменні амаль усіх размоўцаў, гэта найкарацейшы шлях да бязмернага ўзбагачэння. Знаходзячыся ў Беларусі правёў я размову з прыблізна пяцідзесяцігадовай жанчынай, якая ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі выконвае фізічную функцыю. Жанчына старалася размаўляць са мною па-беларуску, што ёсць у Беларусі вялікай рэдкасцю і, трэба сказаць, што параўнаўча рабіла мала памылак. Вось яе рэмінісцэнцыі:

„Я ўжо сама не знаю за што на нас звалілася такая бяда. Жылі мы небагата, але совесна і з дастоінствам. Я зараблялa ўсяго 90 рублёў. Было ў мяне ўсё разлічана, пару рублёў на транспарт, дванаццаць рублёў на кватэру. Газ і электрычнасць былі ў нас практычна бясплатныя. На газ дык шчотчыкаў дажэ не было. Што касаецца ежы, дык укладвалася ў 50 рублёў. Вядома, не было раскошы, але і бяды не было. Пару разоў нават на курорт з'ездзіла. Калі дзеці былі малыя, то іх у дзесці сад адводзіла. Трымалі іх там амаль бясплатна. У школах дык і гаворкі не магло быць, не трэба было ніякіх аплат. Напэўна я не жыла так як наш Шамякін ці Танк, але жыла па-чалавечы.

Ну, а сейчас што нарабілася? Гэта ж усё нямысліма. Палучаю я каля пяці тысяч і ў палове месяца ўжо без капейкі. Я стала нішчая. Боты стояць семдзесят тысяч і то слабаватыя!

Заглянула я каля месяца таму ў магазін, бачу, ляжаць макароны па 11 рублёў за кілаграм. Думаю, трэба купіць на запас кілаграмаў дзесяць. Аднак не мела пры сабе грошай. Ладна, — думаю, — куплю заўтра. Пайшла я з торбаю заўтра, кажу прадаўчыцы: зваж мне дзесяць кілаграмаў. Тая зважыла, іду я ў касу, а там мне касірша выбівае цэтлік на тысячу шэсцьсот рублёў. Я ў крык, моў, што гэта за безабразіе! А яна кажа: „Безабразнічаеш ты, а не я! Макароны сёння раніцай перацэнены з адзінаццаці рублёў на сто шэсцьдзесят рублёў за кілаграм. Ну, у мяне нешта абарвалася ў нутры. Аднесла я макароны на прылавак і на ватных нагах еле дамоў давалаклася. То вы мне скажыце, ці такое было калі-небудзь! Я памятаю парадкі сталінскія, хрушчоўскія і брэжнеўскія, але такога разбою не было ніколі. А гэта ж ні так даўно гэты галаварэз Гарбачоў гаварыў, што ўсё падаражэе ў нас не болей як паўтара раза. То маеш гэтыя паўтара раза! Ну, павер мне, калі я бачу морду Гарбачова або Ельцына, то хаця ніколі не ўдарыла чалавека, нават дзяцей сваіх ніколі не біла, то маю ахвоту ўзяць нейкую кувалду і так ім даць па башкам, каб адразу падохлі і хацела б напляваць ім у іх бяссовесныя глаза. Дзе ў гэтых праступнікаў глаза, як яны могуць глядзець людзям у твар, а і яшчэ гаварыць аб нейкіх там перастройках ці ўскарэннях. Гэта ж такі пазор, якога ніколі не было на нашай зямлі. Але верце мне, што кары ім не мінаваць, народ упомніцца за сваё.

Вы ведаеце, што робіцца? Той, хто совесна работаець, або ў завядзенні, той жыве ў прогаладзі. У каго хватае дзенег да дваццатага, у каго да пятнаццатага. А ёсць і такія, што ўжо і дзесятага сядзяць без грошай. Кожны толькі шнырыць, дзе пазычыць. Прадметы, каторыя набывалі ўсё жыццё, у камісіёнках за нішто прадаюць, каб толькі з голаду не падохнуць. А як жывуць розныя прайдохі? У роскашы. Маладыя хлопцы і дзяўчаты кідаюць школы, універсітэты, учраждзенні, заводы. Усе кідаюцца ў спекуляцыю. Ганяюцца па ўсяму Саюзу. Ездзяць у Польшчу, на Захад, хто куды толькі можа і варочаюцца з поўнымі кішэнямі доларау. Вось такое жульё і пачынае кіраваць усім обшчаствам. Я ўжо не ведаю, ці такое пекла гэта ідзе ад людзей, ці ад Бога? Ну, скажыце, можа вам відней?"

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Зіма плача...* Фота Уладзіслава Завадскага

## ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### МЫШКА ЗБІРАЕ ЖУРАВІНЫ

Да мышкі Пік-Пік часам завітваў у госці Дамавік. Звычайна ён прыносіў з сабой слоічак з цудоўным варэннем, крыху кіславатым і духмяным.

- Гэта варэнне з журавін, - тлумачыў Дамавік. - Я кожны год сам збіраю гэтыя ягадкі і вару з іх варэнне. Няма яго смачней і карысней.

Пік-Пік паспрабавала смачны напой і думала, што някепска было б і самой назапасіць такога дабра. І вось аднойчы Дамавік паведаміў мышцы:

- Мой сябра Лесавік кліча ў госці, па журавіны. Заўтра раніцой адпраўляюся ў лес.

Зразумела, мышка адразу ж запрасілася, каб Дамавік узяў яе з сабой. Ён згадзіўся, але папярэдзіў:

- Адпраўляцца трэба зранку, так што рыхтуйся, чакаць не буду, калі спознішся.

Мышка так і зрабіла: падрыхтавала мяшочак для журавін і паклала ў яго пернік, каб у лесе не галадаць. І калі яшчэ не ўстала сонейка, мышка сядзела на балконе, дзе Дамавік прызначыў стрэчу. "Як жа мы трапім адсюль у лес?" - гадала мышка. Між тым з'явіўся Дамавік з кошыкам і закрычаў: "Вунь транспарт Лесавічковы!" І мышка Пік-Пік убачыла, што на балкон садзіцца прыгожая дзікая качка. Дамавік і Пік-Пік размесціліся на птушынай спіне, і качка паляцела. Мышка адразу вельмі спалохалася, а пасля, мабыць, са страху, заснула.

Прачнулася Пік-Пік ад таго, што качка скінула яе на зямлю. Мышка агледзелася: яны з Дамавіком знаходзілася не ў лесе, а на нейкім полі, сырым і туманістым. Там-сям раслі кволыя дрэўцы, а глеба была зусім няроўнай - адны купіны, а паміж імі - вада.

- Дзе мы? - здзівілася мышка, а Дамавік адказаў:

- На балоце.

- А дзе журавіны?

- А ты на купіны паглядзі...

Мышка паглядзела на купіны і заўважыла, што на зялёным імху парассыпаны чырвоныя прыгожыя пацеркі. Пік-Пік адразу схапіла адну, але за ёй пацягнулася залёная нітка з іншымі пацеркамі.

- Вось дзіва! Караліі! Чые гэта?

- Не каралі, а журавіны, - насмешна сказаў Дамавік. - Давай, збірай, у абед за намі прыляціць качка. - І мышчын сябар паскакаў з купіны на купіну і схаваўся ў тумане.

Першае, што зрабіла мышка - канечне ж, сунула журавінку ў рот. Але ягада аказалася такой кіслай, што Пік-Пік раз і назаўсёды расчаравалася ў балотных прысмаках. Таму, кінуўшы ў мяшэчак пару ягадак, Пік-Пік дастала свой пернік і разлеглася на мяккай купіне. З'еўшы прысмак, мышка задрамала. Разбудзіла яе яркае сонейка і голас Дамавіка:

- Ну што, Пік-Пік, ці шмат набрала?

Пік-Пік расплюшчыла вочы і ўбачыла, што Дамавік стаіць з поўным кошыкам журавін. Мышцы зрабілася сорамна, і яна прагаварыла:

- Ды я яшчэ не пачынала збіраць... Зараз набяру...

- Няма ўжо калі збіраць, - усміхнуўся Дамавік. - Праз дзесяць хвілін дадому паляцім. На, пакараўуль мой кошык, я да вожыка збегаю, вазьму трохі сушаных грыбочкаў.

І Дамавік паскакаў у бок лесу. Мышка між тым узяла Дамавікоў кошык і адсыпала ягад у свой мяшэчак: прыгаршчу, пасля другую, пасля, падумаўшы, трэцюю... І з засмучэннем убачыла, што кошык напалову апусцеў.

- Можа, не заўважыць... - з надзеяй падумала мышка. - А калі заўважыць?..

Пік-Пік падляцела да крывой сасны, набрала шышак і падклала іх на дно Дамавіковага кошыка, пад ягады, зверху зараўняла, і атрымалася, што кошык зноў поўны.

Хутка вярнуўся Дамавік. Ён вельмі здзівіўся, што мышка за такі кароткі час набрала столькі ягад, пахваліў яе. Прыляцела качка, і ягаднікі адправіліся дадому.

У сваёй норцы мышка пачала думаць, што рабіць з журавінамі. Так не з'ясі, значыць, трэба варыць варэнне. Колькі цукру пойдзе! А важдацца колькі! Шчыра кажучы, мышка увогуле ніколі не варыла варэння, толькі пазычала ў Мамы.

- Трэба была мне гэтая кісляціна!? - думала мышка.

І тут са сцяны выйшаў надзьмуты Дамавік.

- Вось добра, што ты прыйшоў! - усклікнула мышка. - Ведаеш што, забірай гэтыя ягады, бо я не ведаю, што з імі рабіць. Зварыш варэнне, мяне пачастуеш...

Дамавік пасвятлеў тварам:

- Ну, тваё шчасце, што ягады сама аддаеш... А то б я твае шышкі табе на лоб насадзіў!

Дамавік забраў журавіны і знік. А мышка ўздыхнула і лягла спаць, думаючы:

- Ну чаго я толькі пацягнулася за гэтым Дамавіком? Толькі замарылася...

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**



## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

*МІРА ЛУКША*

**ЗУБНАЯ ШЧОТКА**

Зубная шчотка Веранічкі
Танцуе ўвечары факстрот
З кусочкам мыла невялічкім,
Худым і тонкім, быццам дрот.

Зубная шчотка Веранічкі
Марыць увесь наступны дзень,
Каб зноў сцягнуць яго з палічкі,
І станцаваць яго на цень!

* * * * * * * * * * * * * * *

*ВІКТАР ШНІП*

**ЛІСА ПРЫГАЖУНЯ**

Маладзенькая ліса
Сабірацца стала ў госці.
Не ліса - а краса,
Залаценькі хвосцік.

Завушніцы начапіла.
А караляў - не знайшла.
Стала лісцы ўсе няміла,
Слёзкі горка разліла.

Ды з кустоў на ліскі тварык
Паглядаў жаніх-камарык:
- Плачаш ліска ты дарма,
Прыгажэй цябе няма.

**СКАРАГАВОРКА**

Ля шашы мурашы
Адшукалі грошык.
Ім за грошык ажын
Прапануе вожык.

* * * * * * * * * * * *

**ЛЮЛІ, ЛЮЛІ, ЛЮЛІ...**

Люлі, люлі, люлі,
Дзеткі ўсе паснулі.
Не спіць толькі коця,
Ходзіць па балоце.
Адмарозіў лапку,
Пайшоў грэцца ў хатку.
Недзе коцю дзецца,
Лапачцы пагрэцца.
Палез на палаткі,
Спалохаўся бабкі.
Палез ён на вышкі,
Там гулялі мышкі.
Так яны дурэлі -
Хвост кату ад'елі.
Пайшоў каток у лясок,
Знайшоў белы паясок.
А котачка узяла
І дзіцяці аддала.
Пайшоў каток пад масток,
Злавіў рыбку за хвасток.
Ці самому з'есці,
Ці дадому несці?
Думаў, думаў каток,
Укусіў адзін разок
І панёс дадому
Дзіцятку малому.

## ЯКАЯ ПРЫМАЎКА ЗАШЫФРАВАНА ТУТ?



*ВІКТАР БАЛЦЭВІЧ,*
*ЛАРЫСА ГАРБАЦЕНКАВА*

## НА ПАРОЗЕ САМАСТОЙНАГА ЖЫЦЦЯ

У тваім узросце многія пачынаюць задумвацца над будучым: іх трывожаць няпростыя пытанні. Як пазбегнуць памылак у самастойным жыцці ці хаця б паменшыць іх колькасць? Як пражыць жыццё шчаслівa, карысна, цікава? Ад чаго залежыць асабістае шчасце? Але амаль ніхто з вас не думаў аб тым, што асабістае шчасце ў многім залежыць ад таго, як складаецца сямейнае жыццё, а таксама ўзаемаадносіны са сваімі бацькамі ці бацькамі свайго выбранніка /выбранніцы/.

Ці задумваўся ты, напрыклад, над тым, кім для цябе з'яўляюцца твае бацькі? А хто ты сам для іх? Ці заўсёды цаніў ты іх клопаты, увагу да сябе альбо прымаў усё як належнае? Ці здольны ты сам што-небудзь штодзённа рабіць для іх, праяўляць такі ж клопат, які яны без стомы праяўляюць у адносінах да цябе?

Чаму мы задаём табе гэтыя пытанні? Ды таму, што менавіта зараз, у юнацтве, фарміруюцца асновы тваіх маральных узаемаадносін з бацькамі.

Да гэтага часу ўсё тваё жыццё працякала пад кантролем дарослых: бацькоў, другіх сваякоў, настаўнікаў. Яны вучылі цябе жыць сярод людзей, імкнуліся сфарміраваць у табе здольнасць прадбачыць вынікі тых або іншых учынкаў, выхоўвалі мэтанакіраванасць, сілу волі і іншыя неабходныя для самастойнага жыцця якасці.

Ты расцеш, сталееш і сутыкаешся з праблемамі, над якімі раней не задумваўся і якія, мабыць, здаваліся яснымі і відавочнымі. Цяпер ты пачынаеш як бы нанава адкрываць для сябе свет, спрабуеш сфарміраваць свой уласны погляд на жыццё, уявіць хаця б у агульных рысах будучую дзейнасць. Ты пачынаеш адчуваць сябе амаль самастойным чалавекам. Гэта прызнанне сваёй сталасці накладае пэўны адбітак на тваё паводзіны: ты паводзіш сябе больш свабодна, незалежна.

Для бацькоў жа іх дзеці растуць часам непрыкметна, яны доўга не заўважаюць, што іх сын ці дачка ўжо дарослыя. Ім цяжка звыкнуцца з думкай, што цяпер усё рэзка змянілася. Яшчэ зусім нядаўна ты прыслухоўваўся да кожнага іх слова, не затрымліваўся на вуліцы пазней дзесяці гадзін вечара, акуратна даваў для праверкі школьны дзённік. А цяпер... Нейкая нябачная сцяна ўзнікае паміж табой і бацькамі.

Гэта атрымліваецца, напэўна, таму, што бацькі ні разу не бачылі, каб іх сын ці дачка ў пэўных сітуацыях маглі прымаць правільныя самастойныя рашэнні, ды і юнакі яшчэ не задумваліся над тым, што самастойнасць - гэта ў першую чаргу ўменне адказваць за свае ўчынкі.

Часцей за ўсё атрымліваецца так, што маладыя людзі, прымаючы свавольныя ўчынкі за самастойнасць, робяць так, што бацькам потым прыходзіцца папраўляць. Вось яны і стараюцца зрабіць усё за дзяцей.

*(Працяг у наступным нумары)*

*ГАЛІНА БАРЫСАВА*

## ДЭЛЬФІН

На небе - ні воблачка. Усё мора, як акінуць вокам, заліта яркім сонечным святлом.

Для дзяцей на пляжы раздолле: купаюцца, загараюць на цёплым пяску, гуляюць з цацкамі. Смех, крыкі - весела ўсім. І раптам пачуўся плач, моцны і няўцешны.

Дзяўчынка вучыла плаваць сваю любімую ляльку. Ды набегла хваля, падхапіла ляльку і адносіць у мора, за буйкі, усё далей ад берага.

- Оля, не плач! - суцяшае мама. - Я куплю табе новую ляльку.

Але дзяўчынка ніяк не можа супакоіцца. Далонькамі выцірае слёзы, зноў усхліпвае - такое ў яе гора.

- Глядзіце, глядзіце, дэльфін! - закрычалі на беразе.

І дарослыя і дзеці збегліся да вады. Дэльфін плыў, падштурхоўваючы ляльку, і яна хутка набліжалася да берага.

На мелкаводдзі, у празрыстай вадзе, дэльфін павярнуў назад у мора. Адплыў за буйкі, узмахнуў хвастом і знік у марской глыбіні.

Большыя дзеці дасталі ляльку з вады. Оля прытуліла яе да грудзей і пачала супакойваць, закалыхваць, як жывую.

## *ВЯСЁЛЫЯ ДЫЯЛОГІ*

- Абаранак - гэта літара "О".
- А калі адкусіць кавалачак, атрымаецца літара "С".

* * *

- Вось бачыш, дзядзя маму слухаў і вялікі вырас.
- А ты сама, мама, чаму маленькая? Відаць, не слухалася?

* * *

- Сынок, ты зноў залез на дрэва! Я ж табе забараніла.
- А гэта другое дрэва.

**ВАЛЯНЦІН СЯРЭБРАНЫ**

## ДАРАГАЯ "ЗОРКА"!

Пішуць табе вучні VII і VIII класаў Пачатковай школы ў Трасцяніцы. 22 студзеня ў нашай школе адбылася Навагодняя ёлка. Да яе мы доўга і старанна рыхтаваліся. Па-святочнаму прыбралі залу, дзе адбыліся мастацкая частка і прыход Дзеда Мароза.

На ўрачыстасць прыйшлі нашы бацькі і настаўніца Галена Тапалянская, якая шмат гадоў навучала беларускую мову ў нашай школе. У нас была багатая праграма. Мы пабеларуску і па-польску дэкламавалі вершы, спявалі песні. Паставілі тры п'есы на беларускай мове: "Выкруціўся", "Не на тым коніку", "Як я быў доктарам". Гэтыя п'есы расказваюць аб школьным жыцці такіх вучняў, як і мы. Апрача гэтых п'ес вучні падрыхтавалі жартаўлівыя сцэнкі таксама са школьнага жыцця. Мастацкую частку мы закончылі песнямі. Зараз жа і прыйшоў Дзед Мароз. Прынёс нам вялікі мяшок падарункаў, аднак дастаць падарунак было нялёгка. Абявязкова трэба было заспяваць песню, сказаць верш ці загадаць цікавую загадку.

Урачысты вечар закончылі танцы. Усе шчаслівыя, з падарункамі вярталіся дамоў. Гэты дзень надоўга застанецца ў нашай памяці.

З прывітаннем!

**VII і VIII клас**
**Трасцяніцкай школы**

*Смачна есці...*

## ПЯЧОРНЫ ЛЕЎ З-ПАД... СМАРГОНІ

Штогод беларускія палеантолагі ўлетку выязджаюць на пошукі рэштак выкапнёвых раслін і жывёл. Яны наведваюць кар'еры і равы, даследуюць абрывы высокіх і нізкіх берагоў рэк і другіх вадаёмаў, месцы, дзе вядуцца земляныя работы. І прыязджаюць увосень не з пустымі рукамі. Бо наша палеанталагічная беларуская зямля яшчэ не вывучана, мала мы ведаем пра яе, асабліва пра тыя падзеі, якія адбываліся тут у даўнія геалагічныя часы.

Самае багатае на Беларусі месца знаходжання рэштак выкапнёвых млекакормячых - каля Смаргоні. Тут, дзе працуе вялікі сілікатны камбінат, пры здабычы жвіру і пяску з рэчышча Віліі на паверхню іншы раз падымаюцца і косткі жывёл. Зараз у Інстытуце геахіміі і геафізікі Акадэміі навук Беларусі захоўваецца амаль 7 тысяч костак, знойдзеных тут. Паводле іх вызначаны 23 віды выкапнёвых млекакормячых. Выяўлены новы для тэрыторыі Беларусі від выкапнёвага пячорнага льва. Гэта вымерлая жывёла з роду пантэр сямейства кашэчых атрада драпежных звяроў мае некалькі назваў: пячорны леў, плейстацэнавы леў, тыгралеў і страшны леў. Ён быў насельнікам Еўропы і Азіі на працягу ўсяго плейстацэну - адрэзку геалагічнай гісторыі Зямлі, які пачаўся каля мільёна гадоў таму і скончыўся каля 10 тысяч гадоў назад. У познім плейстацэне пячорны леў меў самы шырокі арэал - ад Ірландыі і Англіі на захадзе да Новасібірскіх астравоў, Чукоткі і Аляскі на ўсходзе, Палесціны, Закаўказзя, Сярэдняй Азіі, Манголіі і Прымор'я на поўдні. У Паўночнай Амерыцы насяляў Мексіку, а таксама захад і поўдзень ЗША.

Шкілеты, асобныя чэрапы, малюнкі і скульптуры эпохі каменнага веку паказваюць, што пячорны леў быў падобны да сучасных ільвіц Афрыкі і Азіі і часткова да прыамурскіх тыграў. Характэрнымі рысамі гэтага звера былі: параўнальна буйная галава з прамым або крыху пукатым профілем, невялікія вушы, прыкметныя бакі, дзябёлае тулава, як у тыгра, доўгі хвост без кутасіка на канцы. Мяркуецца, што ягонае цела было ўкрыта аднакаляровай, пясчана-фіялетавага тону поўсцю.

Жыццё сучаснага льва, блізкага "сваяка" пячорнага, мы прывыклі спалучаць з гарачымі саваннамі і джунглямі Індыі або Афрыкі, паўпустынямі Малой Азіі ці Аравіі. Тыгралеў быў насельнікам суровых ландшафтаў з траскучымі маразамі. Назва пячорны па ўмовах жыцця гэтай жывёлы можа быць і памылковай. Верагодна, што там, дзе былі пячоры, гэтыя драпежнікі скарыстоўвалі іх, а на раўнінах задавальняліся любым прытулкам, накшталт хмызнякоў, іншымі месцамі.

Лічыцца, што пячорны леў на Рускай раўніне вымер у канцы плейстацэну разам з характэрнымі прадстаўнікамі той эпохі: мамантам, валасатым насарогам, першабытным бізонам, а на поўдні Сібіры, у Манголіі і ў Паўночным Кітаі мог дажыць нават да сярэднявечча.

Рэштки тыгральва са Смаргоні прадстаўлены фрагментам левай плечавой і чатырма пясцевымі косткамі кісці. Які ж узрост беларускага пячорнага льва? Гэта можна вызначыць па аналогіі з разам адшуканымі рэшткамі іншых выкапнёвых жывёл. Сярод іх вядомы мамант, валасаты насарог, конь, аўца-бык, паўночны алень... Згодна з радыевуглярoднымі датаваннямі, яны былі тут насельнікамі ад 30 да 14 тысяч гадоў таму.

На жаль, пазнаёміцца з гэтымі знаходкамі сёння мы не можам. У рэспубліцы няма агульнадаступных ні заалагічнага, ні палеанталагічнага музеяў.

**ПЯТРУСЬ КАЛІНОЎСКІ**

З запісказ шпітальнай „салёвай"

## СЫНОЧАК

Вера падабалася хлопцам, але замуж чамусьці доўга не выходзіла. Адна жыла, бацькі рана памерлі.

Было ёй ужо каля сарака, як апамяталася.

— Добра было б мець сям'ю, — уздыхала перад сяброўкамі.

— Трэба было думаць раней. Ты што думала, бацькі будуць вечныя? Што ж, трэба будзе пашукаць кавалера, — клапаціліся сяброўкі.

Урэшце высваталі Верцы старога кавалера. Хутка згулялі вяселле. Праз год нарадзіўся сын. Мікіта быў добрым мужам і бацькам, аднак, нядоўга. Калі малому было пяць гадоў, Мікіта цяжка захварэў і асіраціў сям'ю.

Не апісаць, не расказаць, што перажывала Вера.

Маці вельмі кахала свайго сынка. З вялікай чуласцю і адданасцю хацела яму замяніць і бацьку. Купляла малому ўсё, што толькі захацеў.

Толік пачаў піць і курыць яшчэ ў пачатковай школе. Вучыўся дрэнна. Выкінулі яго з прафесіянальнай школы. А патрабаваў ад маці ўсё больш. Калі ў маці грошай не было, лаяўся:

— Ты старая сука! Давай грошы! Ты што сабе думаеш, загнала ў магілу бацьку, і мяне звядзеш?! Хутчэй сама здохнеш! — і біў яе.

— Толічак, сыночак... — малілася матка. — Адкуль жа мне браць грошы? Ужо пара, каб ты сам на сябе зарабіў... І на старасць мне дапамог...

Ад такога жыцця Верка прыхварэла. Памерла ў нашай бальніцы.

Пасля пахавання маткі Толік усё папрадаваў і прапіў з калегамі. Сядзеў у пустой хаце. Потым, казалі, пайшоў на магілу маткі і павесіўся на крыжы.

**АЎРОРА**

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-2710, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego: 5021-24325-152-6787.

Жыхары Беларусі ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

Спіс чарговых ахвяравальнікаў:

| | |
|---|---|
| 4110. Зіновій Галёнка /Варшава/ | - 500.000 зл. |
| 4111. Міхал Голуб /Гайнаўка/ | - 20.000 зл. |
| 4112. Міраслаў Навіцкі /Гайнаўка/ | - 120.000 зл. |
| 4113. Юльян Казбярук /Гайнаўка/ | - 60.000 зл. |
| 4114. Ахвяраванні працаўнікоў Чыгуначнай станцыі ў Чаромсе | - 801.000 зл. |
| 4115. Ахвяраванні працаўнікоў Лакаматыўнага дэпо ў Чаромсе | - 1.344.100 зл. |
| 4116. Валянціна Гурын /Гайнаўка/ | - 60.000 зл. |
| 4117. Беларускі ансамбль песні Гайнаўскага дома культуры ў Гайнаўцы | - 1.000.000 зл. |
| 4118. Даход з карнавальнага балю ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы | - 4.306.950 зл. |
| 4119. Віктар Швед /Беласток/ | - 100.000 зл. |
| 4120. Галіна Маліш /Гайнаўка/ | - 100.000 зл. |
| 4121. Аляксей Харкевіч /Гайнаўка/ | - 100.000 зл. |

Дзякуем.

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej w Hajnówce, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.

## ВІРАВАНКА

1/ цячэ ў ярок, 2/ кожны дзень, 3/ упакоўка, 4/ кроплі на расліне, 5/ узняты ўверх участак зямлі, 6/ ніжняя канечнасць, 7/ хлусня, 8/ карта ў картах, 9/ не адна ў банку, 10/ тлушчавы прадукт, 11/ таксама нага, 12/ двое, 13/ з рагамі, і дае малако, 14/ Нёман, 15/ гарачыня, спёка, 16/ у коміне.

1 2 3 4
5 6 7 8
9 10 11 12
13 14 15 16

**ядань**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на касяк з 5 н-ра. Управа:** рынак, рамазан, рыкашэт, расклад, рабства, руіна. **Улева:** тыраж, Татарыя, таракан, рэактар, таўстун, твань.

Кніжную ўзнагароду атрымоўвае Лукаш Пацэвіч з Беластока.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Сніцца, што знаходжуся я на вуліцы Мазавецкай у Беластоку. Там жыве мая сяброўка. І мы з ёю пры яе блоку. Там велізарная трава ў рост чалавека, густая. Выглядае як даспелае збожжа, жаўтаватага колеру і таўшчыні такой жа. Мы ідзем праз тую траву, нейкая там сцежачка ёсць. Я трымаю моцна сумку, бо баюся, каб не ўкралі яе ў мяне. Потым ужо я на тратуары, травы ніякай няма, іду ў кірунку цэнтра, і... сумкі няма ў мяне. Іду адна. Але падыходзіць да мяне сяброўка з работы. Ідзем мы з ёю і я расказваю ёй сваю бяду, што сумку так сцерагла і недзе згубіла. І тут пры мне хлопчык, той, якога я калісь сустрэла, выходзячы з „Дэлікатэсаў", пры дзвярах. Ён прасіў мяне купіць яму што-небудзь з'есці, бо ён галодны. 9-гадовае дзіця каля 8-ай гадзіны вечара адно. Я павярнула назад у магазін і пытаю, што яму купіць, мо каўбасы якой. А ён паказвае на капусту ў вітрыне і кажа: „Капусты гэтай. Але найперш я мушу купіць малако ў парашку, бо брацік 2-месячны галодны, а ў хаце нас пяцёра. Есці няма чаго. Бацька ўсе грошы прапіў. На малако мне бракуе". Я далажыла яму да малака, купіла той капусты. І кажу, што сардэлькаў куплю яшчэ. А ён аднекваецца. Кажа, што мама калісь каўбасы дала, дык яны патруціліся. Усю ноч ванітавалі. Я, аднак, пераканала яго, што гэтай каўбасой ён не затруецца, купіла пяць штук. Ну і за рэшту грошай купіла той капусты. „Больш табе нічога купіць не магу, бо грошы скончыліся". Ён падзякаваў мне і сказаў: „У нас у хаце няма ні цукру, ні гарбаты..." Мы выйшлі з магазіна і пайшлі кожны ў свой бок. І тут у сне ён кажа:„Я быў у вас на рабоце, як там добра..." І канец сну.

**Марыся**

Марыся! Сон прадвяшчае табе нешта добрае. Высокая і густая трава, напамінаючая збожжа, абязначае напэўна нейкі прыбытак. Зрэшты, і згубленая сумка сведчыць аб тым, што нешта знойдзеш. Праўдападобна, тут справа ў тым жа прыбытку.

А той хлопчык, што быццам быў у цябе на рабоце, відаць, таму і паявіўся ў сне, каб папярэдзіць цябе аб нечым добрым. Добрыя ўчынкі будуць заўсёды ўзнагароджаны. У тым ці іншым выглядзе, але тое, што ты аддала беднаму, вернецца табе ўтрая.

**АСТРОН**

## АДГАЛОСКІ

**Хлопцы!**

Як вам не сорамна пісаць /"Людзі з Маўзалея", "Ніва" н-р 3 ад 17 студзеня 1993 г./ пра гэнага людаеда такую бальшавіцкую хлусню, асабліва спадару Целушэцкаму? Добра, што колькі слоў захацеў дакінуць на гэтую тэму сп. Панфілюк. А і я не прамаўчу.

Наведаў гэнае бальшавіцкае капішча ў Маскве і я, нават два разы, і бачыў тую нават не мумію, над якой вы так плакаць захацелі, а драўляную або васковую "ляльку-фігуру", хітра зтайстраваную, думаю, ці не якім нямецкім майстрам. Яны ж гэта, немцы, значыць, пісалі ў сваёй газеце "Frankfurter Allgemeine Zeitung" пра тое, што нямецкая група лячыла гэнага Л. у 1924 годзе, пакуль па загаду "велічайшага карыфея" не загнала на той свет. Па яго загаду і цела "генія ўсяго чалавецтва" было спалена і ўкінута ў Маскву-рэчку, так што і следу яго не было ў Маўзалеі. "Бацька ўсіх народаў" так усіх адурманіў, што ніхто і не пасмеў крыкнуць, як у казцы Андэрсена: "Кароль голы!" Перастаньце шкадаваць васковага ці драўлянага ідала, бо гэнае дзівацтва нікому не патрэбнае, а ад дурняў толькі грошы вырваць хочуць на "кансервацыю". Малайчына, Панфілюк, што праўду кажаш!

**ДЗЕД УСЯВЕД**

У „Ніве" н-р 7 ад 14 лютага г.г. змясціў свой допіс „Святыня д'ябла і рэчаіснасць" Мікалай Панфілюк, які моцна крытыкаваў Янку Целушэцкага за тое, што піша ён аб маўзалеі Леніна і назваў Леніна д'яблам. Мне здаецца, што Панфілюк як часта пачаў пісаць у „Ніву", так і хутка рабіць гэтае перастане. У адным з папярэдніх нумароў „Нівы" ужо Грыша Мароз назваў Панфілюка пярэхрыстам і гэтыя словы я поўнасцю падтрымоўваю.

Пры камуністычнай уладзе М. Панфілюк заўсёды быў перадавым карэспандэнтам і штогод з'яўляўся ў першай тройцы. Тады яго артыкулы былі пераважна пракамуністычныя, у іх бараніў ён помнікі Леніну і расхвальваў камуністаў, а цяпер, калі вецер павеяў у другі бок, то і М. Панфілюк павярнуўся быццам флюгер. Мне здаецца, што М. Панфілюк цяпер аднак паразумнеў і ўжо ніколі ў іншы бок не павернецца, але і супраць ветру не будзе ён дзьмухаць.

Калі добра падумаць, дык мне здаецца, што Ленін ішоў добрай дарогай, а толькі Сталін яе зблытаў і ўсё перавярнуў уверх нагамі. За гэта ўсё, што нарабілася ў Савецкім Саюзе адказны толькі Сталін і яго наступнікі, як Хрушчоў, бо гэта яны давялі рускі народ да голаду і холаду. Іх гэта трэба выкінуць з гісторыі, але Ленін павінен астацца ў памяці назаўсёды.

Паглядзі ляпей, Панфілюк, што дзеецца цяпер вакол цябе і тое пішы ў „Ніву", а тады цябе людзі дацэняць, калі будзеш пісаць праўду.

Перанясі спакойна маё пісанне і не давай мне адказу ў „Ніве", хаця ведаю, што табе будзе вельмі горка.

**М. ЛУК'ЯНЮК**

## ПАПРАЎКА

Сардэчна перапрашаем Пятра Байко, аўтара інфармацыі "Зубрыны статак" ("Ніва" н-р 10 ад 7.03.1993 г.), за дапушчаную намі памылку падчас рэдакцыйнай апрацоўкі ягонага допісу. Надрукавалі мы, што "У бягучым годзе **паляўнічыя** плануюць застрэліць ажно 60 штук..." (зуброў - рэд.). Аказваецца, што паляўнічыя не маюць дачынення да зуброў, а ў Белавежскай пушчы ўжо больш як 60 гадоў не дапускаюцца паляванні на іх. **Адстрэлы** - а не паляванні - **выконваюць вызначаныя працаўнікі БНП** па дазволу адпаведных улад у Варшаве. Згаданы сказ павінен пачынацца так: **"У бягучым годзе плануецца адстрэліць аж 60 штук..."**

**РЭДАКЦЫЯ**


**Ніва**

**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка "Ніва"

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1993 r. upływa 20 maja 1993 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 39 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## МАКАТРАЗМЫ

*Вятры "белавежскія"*

**МІКОЛА ДЗЕСЯЦКІ**

Грамаду яцвягаў
за Сварожскім бродам
Мікола вітае
то мячом, то мёдам.
- Дзякуй табе, вою,
у час падняў трывогу,
полаўцы з-над Пульвы
ідуць на падмогу.
- У шчыліны цвердзі,
хто з мячом з'яднаны!
Сварожа! Сварожа!
Адвядзі паганых...
І стаялі насмерць
нарцы проці чэрні,
аж ізгон яцвяжы
пайшоў у свае верві.
Сварожа! Сварожа!
Прыўваж крамолу -
на трызну з сайгатам
вярнуўся Мікола.

**СІДАР МАКАЦЁР**

*АМБРОЗ БІРС*

## БАЙКІ

### АДКРЫЦЦЁ

Льва заатакавала зграя галодных ваўкоў. Яны хадзілі вакол яго, галасна вылі, але баяліся падысці блізка.

- Але ж гэта вельмі прыдатныя жывёлы, - сказаў Леў, уладкоўваючыся на адпачынак пасля абеду. - Яны адкрываюць ува мне новыя якасці. Я і не ведаў, што мяне можна есці.

### ПАМЫЛКОВЫЯ РЭЛІГІІ

Пачуўшы на вуліцы шум, Хрысціянін запытаўся свайго Усходняга Гіда аб яго прычыне.

- Будысты рэжуць мусульман, - з усходнім спакоем адказаў Гід.

- Я і не думаў, - заўважыў Хрысціянін з цікаўнасцю ў голасе, - што гэта наробіць столькі шуму.

- А цяпер мусульмане рэжуць будыстаў, - дадаў Гід.

- Неверагодна, - задуменна сказаў Хрысціянін, - наколькі жорсткімі могуць быць рэлігійныя спрэчкі.

Пасля гэтага ён самазадаволена ўсміхнуўся і пайшоў на тэлеграф, каб выклікаць атрад галаварэзаў для абароны інтарэсаў хрысціян.

### ПАКУТНІК

У раі Дзве Жанчыны прад'явілі свае правы на Мужчыну, які толькі што прыбыў.

- Я была яго жонкай, - сказала адна.

- Я была яго палюбоўніцай, - сказала другая.

Святы Пётр выслухаў іх і сказаў Мужчыну:

- Лепей табе пайсці ў пекла. Ты ўжо досыць пакутаваў.

*З англійскай пераклаў*
*АЛЕСЬ КУДРАЎЦАЎ*






### Тэст: Ці ведаеце вы беларускія песні і вершы? /выбраць правільны адказ/

1. "Вы шуміце, шуміце, нада мною..."
а/ бярозы; б/ баабабы; в/ самалёты; г/ суседзі.

2. "Даставай, Язэп..."
а/ гармонік; б/ заначку; в/ гранату; г/ талоны на цукар.

3. "Касіў Ясь..."
а/ канюшыну; б/ бамбук; в/ "зялёненькія"; г/ у вас забыў спытацца, што яму касіць.

4. "Ад панядзелка да панядзелка дробны дождж ідзе, сабралася бедна басота ды... п'е"
а/ гарэлку; б/ дэнатурат; в/ віно "Марціні"; г/ бедна басота выбірае "пепсі".

5. "Беларусь! Твой народ дачакаецца..."
а/ залацістага, яснага дня; б/ тралейбуса; в/ гуманітарнай дапамогі; г/ нічога не дачакаецца.

6. "Беларусь - мая..."
а/ шыпшына; б/ шына; в/ кветка кактуса; г/ белая акацыя.

7. "Народ, беларускі народ, ты цёмны, сляпы, быццам..."
а/ крот; б/ кот Базіліо; в/ Гамер; г/ Сціві Уандэр.

8. Нацыянальны гімн беларусаў:
а/ "Мы выйдзем шчыльнымі радамі..."; б/ "Выходжу адзін я на дарогу..."; в/ "Выйшлі мы ўсе з народу..."; г/ гл. н-р 4.

9. "Мы, беларусы, з братняю Руссю разам шукалі..."
а/ к шчасцю дарог; б/ дзе што нальюць; в/ дзе што даюць; г/ ды так і не знайшлі.

Калі на ўсе пытанні вы адказалі пунктам "а", вы смела можаце прэтэндаваць на пасады міністра культуры, адукацыі, інфармацыі, а таксама старшыні Саюза пісьменнікаў, Таварыства беларускай мовы і камісіі па аўтарскіх правах.

Калі ж вы перакананы ў іншых адказах, то ў вашых думках пануе сапраўдны плюралізм. А, як вядома, "плюралізм у адной галаве - гэта шызафрэнія".

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**
*("Звязда")*

## ІМПАРТГУМАР

"...Ты прабач мяне, дарагі дзядзя, што я не змагу прыйсці на вакзал сустрэць цябе. Прыйдзе мая жонка. І каб яна пазнала цябе, трымай у левай руцэ парася альбо гуся..."

* * *

Маці высылае да дачкі, якая жыве ў горадзе, тэлеграму: "Прыязджаю на тыдзень стоп прывязу гусь". У той сам дзень атрымлівае адказ: "Гусь па пошце стоп танней".

* * *

Тры бабулькі абмяркоўваюць сваё жыццё.

Першая:

- Мне ўжо 60, а ўсе зубы цэлыя.

Другая:

- А мне 70, і паглядзіце, якія пышныя валасы.

Трэцяя:

- А мне ўжо 80, а я, цьфу, цьфу, яшчэ дзеўка.

* * *

Сядзіць стары рыбалоў, вудзіць рыбу. Раптам паявілася падводная лодка. Адкрываецца люк, а з яго выглядае капітан.

- Містар, дзе мы знаходзімся?
- Пайшоў ты...
- Спадары, мы ў Расіі!

* * *

Хлопец гаворыць дзяўчыне:

- Пойдзем да мяне, паслухаем касеты.
- Добра. Але паабяцай, што мы будзем толькі слухаць музыку.
- Абяцаю.
- А калі мне не спадабаецца?
- Тады ўстанеш, адзенешся і пойдзеш дадому...

Замежны турыст у Маскве звяртаецца да маладой жанчыны:

- Вы не маглі б размяніць мне сто долараў?
- Не, але дзякую за камплімент.

* * *

- Чым закончылася твая ўчарашняя сварка з жонкай?
- Яна прыпаўзла да мяне на каленях.
- І што яна сказала?
- "Вылазь з-пад ложка, подлы трус..."

Падборку зрабіў
**ЯНКА ДАРОЖНЫ**.

## СЕНТЭНЦЫІ

Люстра праўду скажа Табе ўдзень,
дык узірайся ў яго ўначы.

* * *

Выпрастай плечы - і горб зваліцца.

* * *

Мараль і мудрасць, што святар
і купец -
злучае іх вера, дзеліць справа.

**БАРЫС РУСКО**

## *ДЗЯЎЧАТЫ З УСХОДУ Ў ОЛЬШТЫНЕ*

У мінулым годзе пісаў я пра дзяўчат з агенцтваў „Алекс" і „Туліпан". Цяпер — пра дзяўчат з-за ўсходняй мяжы.

Зоя мае 20 гадоў, прыехала з Калінінграда. Яе сяброўка Марына старэйшая за яе на год. Ад пачатку гэтага года працуюць абедзве ў Ольштыне „дзяўчынамі для кампаніі". Жывуць ва ўласніка таварыскага агенцтва. У горад самыя не выходзяць; могуць выходзіць толькі пад наглядам працаўніка агенцтва. Іх занятак — чакаць тэлефона: мусяць быць гатовыя да выезду ад самай раніцы.

— Паляці гэта добрыя людзі, — гаворыць Зоя. — Чыстыя, пахучыя, элегантныя і добра да нас адносяцца. Не так, як рускія мужыкі. Папрацую тут тры месяцы, куплю долары і буду жыць у сябе два гады без працы.

— Я ведала, на якую працу іду, — гаворыць Марына. — Раблю ўсё, што пан захоча. Работу гэтую нараіла мне сяброўка, якая была тут у мінулым годзе; летам яна зноў хоча сюды прыехаць.

У Ольштыне працуе ўжо восем таварыскіх агенцтваў; іх лік і назвы мяняюцца, нумары іх тэлефонаў друкуюць штодзённыя газеты. Частка з іх прымае на работу жанчын з СНД; полькам у Ольштыне не адпавядаюць заробкі ці і можна сустрэць знаёмага з блёка. Цана за „паслуу" ад 450 тысяч да 750 тысяч зл. за гадзіну. Ноччу даражэй, але калі хтосьці закажа дзяўчыну, напрыклад, на тры гадзіны, мае невялікую льготу.

— Тэарэтычна расіянак у нас няма, значыць гэта, што не працуюць яны дзяўчынамі для кампаніі, — гаворыць уласнік аднаго з агенцтваў. — Працуюць яны на іншых „пасадах".

— Чаму саветкі? — пытаю.

— Яны адносна танныя. Кліент плаціць столькі ж сама, колькі і для полек. Яны працавітыя, самыя дапамінаюцца, каб як найчасцей мець занятак. Ніколі не было на іх скаргаў: яны патульныя, гатовыя споўніць кожнае жаданне.

Як я даведаўся ў Бюро працы, польскія законы аб найманні іншаземцаў у першую чаргу ахоўваюць свой рынак працы. Калі нейкае прадпрыемства захоча прыняць іншаземца, павінна падаць у Ваяводскае бюро працы адпаведную заяву з акрэсленнем характару прапанаванага дадзенай асобе занятку. Калі няма на гэтае месца ахвотных палякаў, ВБП дае дазвол наняць іншаземца; не даўжэй аднак, як на тры месяцы. У Ольштыне зарэгістравана ўжо 14 танцорак, 24 краўчыхі, 2 кухаркі, адзін артыст балета і некалькі настаўнікаў украінскай мовы. Найлягчэй знайсці ахвотных працаваць у таварыскіх агенцтвах, едучы ў Калінінград, Вільню, Гродна або Менск і даючы анонсы ў тамашнія газеты, што патрабуюцца танцоркі для польскіх начных клубаў. Уласнік агенцтва правярае пасведчанне школы танца, правярае, што кандыдаткі ўмеюць, паведамляе, што будуць танцаваць стрыптыз. Дзяўчыны згаджаюцца, бо і які ж маюць іншы выхад? Не ўсім, аднак, адпавядала праца танцоркі, дзе трэба гадзінамі чакаць выхаду на эстраду. Многія з іх перайшлі ў таварыскія агенцтвы, каб хутчэй зарабіць. У ольштынскім „Peep show" працуюць тры саветкі. Іх здымкі вісяць у калідоры. Можна выбраць, купіць жэтон, перайсці ў адну з кабін і цераз малое акенца паглядзець поўны стрыптыз.

Тое, што яшчэ год таму выклікала эмоцыі, перастае сёння быць атракцыяй. На брак ахвотных скардзяцца ўласнікі таварыскіх агенцтваў і начных клубаў.

— Цешыць мяне, калі дзяўчына дастае дзве прапановы ў тыдзень, — сказаў мне адзін з іх. — Гэты інтарэс падае. Дзяўчаты не маюць працы. Колькі плачу ім? Трэцюю частку стаўкі ад кліента.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**